• выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

• кошт 3000 рублёў

30 чэрвеня 1998 г. аўторак №№ 132 — 133 (23483 —23485)






# ЗВЯЗДА

## ЕЎРАПЕЙСКІЯ КРАІНЫ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ЖЫЦЬ АДНОЙ СЯМ'ЁЙ

Дэлегацыя Беларусі на чале з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам завяршыла рабочы візіт у Швейцарыю, дзе прымала ўдзел у Міжнародным эканамічным форуме ў Кран-Мантане.

«Усход і Захад — сумесная стратэгія бяспекі і эканамічнага ўзаемадзеяння» — такая тэма даклада, з якім на пленарным пасяджэнні форуму выступіў кіраўнік беларускай дзяржавы. У ходзе выступлення Аляксандр Лукашэнка зрабіў шэраг важных палітычных заяў. У прыватнасці, ён нагадаў аб тым, што Беларусь першая вывела са сваёй тэрыторыі ядзерную зброю, а таксама знішчыла звычайных узбраенняў больш, чым Англія, Францыя і Германія разам узятыя. Разам з тым еўрапейскія арганізацыі не выканалі ніводнага свайго абавязацельства, якія яны давалі пры ўмове вываду ядзернай зброі з тэрыторыі нашай рэспублікі.

Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз заявіў аб непрыманні Беларуссю палітыкі пашырэння НАТО на Усход. «Існаванне ваенна-палітычнага блока НАТО было вытлумачальна, калі існаваў ваенна-палітычны блок краін Варшаўскага Дагавора, — сказаў ён. — Але мы самі распусцілі гэты блок, а НАТО працягвае расшырацца і ўмацоўваць свае пазіцыі». Прэзідэнт заклікаў да трансфармацыі НАТО з ваенна-палітычнай арганізацыі ў палітыкаабаронную.

Кіраўнік Беларусі выказаў цвёрдую ўпэўненасць, што ўсе еўрапейскія дзяржавы зацікаўлены жыць разам дружнай сям'ёй. Без Беларусі, якая знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, паўнацэннай Еўропы не можа быць. Паводле яго слоў, еўрапейцы «самі павінны будаваць свой агульнаеўрапейскі дом» і «самі вызначаць правілы, па якіх мы павінны жыць».

(Заканчэнне на 3-й стар.).







ПРЕДПРИЯТИЕ
МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ
БЕЛОРУССКОЙ
ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ

*информирует, что*

ВНОВЬ СОЗДАННОЕ
**БЮРО ПАТЕНТНО-ЛИЦЕНЗИОННОЙ РАБОТЫ**
ОКАЗЫВАЕТ УСЛУГИ
ПО ВОПРОСАМ ОХРАНЫ ОБЪЕКТОВ
ПРОМЫШЛЕННОЙ СОБСТВЕННОСТИ,
ВКЛЮЧАЯ УСЛУГИ
ПО СОСТАВЛЕНИЮ ЗАЯВОЧНЫХ ДОКУМЕНТОВ ДЛЯ
**РЕГИСТРАЦИИ ТОВАРНЫХ ЗНАКОВ,**
**ИЗОБРЕТЕНИЙ,**
**ПРОМЫШЛЕННЫХ ОБРАЗЦОВ**
**И ПОЛЕЗНЫХ МОДЕЛЕЙ**
А ТАКЖЕ ПО ОФОРМЛЕНИЮ
ЛИЦЕНЗИОННЫХ ДОГОВОРОВ ПО УСТУПКЕ ПРАВ
НА ОБЪЕКТЫ ПРОМЫШЛЕННОЙ СОБСТВЕННОСТИ.

**Наш адрес:**
**220113, г. Минск, ул. Я. Коласа, 65, каб. 26**
**Тел. для справок: 266-04-72, 266-04-73**


## НАПЯРЭДАДНІ ЗОРНАЙ ПАДЗЕІ

Яўгенія Янішчыц — і зорка, і легенда, і, мусіць, у нечым трагедыйнае адлюстраванне беларускай паэзіі. Сёлета 20 лістапада таленавітай паэтцы споўнілася б 50 гадоў.

У праектах, якія сёння разглядаюцца, — адкрыццё літаратурна-мемарыяльнага музея на радзіме Яўгеніі Янішчыц, правядзенне паэтычнага фестывалю на Піншчыне, шэраг іншых мерапрыемстваў. Пра ўсё гэта ішла размова на пасяджэнні, што днямі адбылося ў Саюзе пісьменнікаў краіны. Прапановы выказалі старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Уладзімір Някляеў, Вольга Іпатава, Віктар Жак і Уладзімір Матусевіч.

«Звязда» выступае з інфармацыйнай падтрымкай усіх мерапрыемстваў, звязаных з 50-годдзем з дня нараджэння Яўгеніі Янішчыц.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ПА СЛЯДАХ СКАНДАЛУ*

### Быламу начальніку службы РАУ прад'яўлена абвінавачанне па трох артыкулах

Наша газета ўжо паведамляла аб затрыманні начальніка службы ракетна-артылерыйскага ўзбраення Узброеных Сіл Беларусі. Напомнім: начальнік службы РАУ абвінавачваўся ў тым, што падпісаў фальшывыя паперы на спісанне вучэбных боепрыпасаў. Сума, якая фігуравала ў справе па спісанню, склала прыблізна каля 120 мільёнаў рублёў. Тады ж пры вобыску на дачы і ў доме палкоўніка быў знойдзены цэлы арсенал зброі.

Сам палкоўнік зараз знаходзіцца ў следчым ізалятары. Яму прад'яўлена абвінавачанне па трох артыкулах.

**Ігар ГРЫШЫН.**


**Постоянно реализуем:**

цемент, шифер, трубы асбестоцементные, рубероид, битум, стекло, мел, арматуру.



(017) 220-51-14, 220-36-76.


## ЗДАРОЎЕ НАЦЫІ — ВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ ДЗЯРЖАВЫ

***Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ на Першым з'ездзе ўрачоў Рэспублікі Беларусь***

Паважаныя дэлегаты і госці з'езда! Дарагія сябры!

Напэўна, кожны дэлегат з'езда, і не толькі дэлегат, добра ведае, у якой сітуацыі прымалася рашэнне аб скліканні гэтага з'езда, як ён рыхтаваўся. Былі розныя пункты гледжання, у тым ліку і дыяметральна процілеглыя: не праводзіць з'езд, праводзіць яго позняй восенню або ў наступным годзе. Было шмат іншых прапаноў. І многія зводзіліся да таго, што з'езд трэба адкласці, перанесці і гэтак далей. Я ацэньваю гэта жаданне «перанесці, адкласці» як спробу працаваць па-старому. Маўляў, вы пачакайце, мы вырашым, а вам потым скажам, як жыць і працаваць.

Я думаю, з'езды мы збіраем не для таго, каб толькі расказаць, як мы будзем жыць заўтра, у далёкай перспектыве, сярэдняй перспектыве, але самае галоўнае, напэўна, сёння паслухаць, вас, урачоў, кіраўнікоў з месцаў, кіраўнікоў устаноў, органаў улады, як яны бачаць сітуацыю, што яны прапануюць для таго, каб гэтыя праблемы вырашыліся.

Мы сабраліся тут для таго, каб не толькі пагаварыць адзін з адным, але, самае галоўнае, пачуць адзін аднаго. Кіраўніцтва краіны павінна ведаць ваша меркаванне аб праблемах, шляхах выхаду на высокія стандарты аховы здароўя. І я думаю, што галоўная ваша работа — гэта не работа на пленарных пасяджэннях, галоўная ваша работа — па праблемах, іх глыбокаму аналізу — у секцыях. І вельмі хацелася б, каб ні адна прапанова не засталася незаўважанай.

Я хацеў бы сказаць, што з'езд — гэта не вынік, а пачатак інтэнсіўнай работы ў галіне аховы здароўя. Ён павінен паставіць глабальныя задачы і задачы бягучага моманту і ўказаць шляхі вырашэння тых праблем, якія сёння існуюць.

Многія з вас канстатавалі факт, што здароўе нашага насельніцтва сёння пагаршаецца. У сувязі з гэтым усё часцей паўстае пытанне: хто вінаваты? Я хацеў бы адказаць на яго так, як я ўяўляю. А адказ тут ясны і просты: вінаватыя вы і я, больш ніхто не вінаваты. «Я» — гэта тыя, хто сядзіць побач са мной, «вы» — дэлегаты з'езда. Можа, вам горка гэта чуць. Мне таксама не салодка. Але калі мы паставім няправільны дыягназ, мы хваробу не вылечым. Ківаць сёння на мінулае, гаварыць аб тым, што развалена стройная сістэма аховы здароўя, забеспячэння лекавымі прэпаратамі насельніцтва, таксама бесперспектыўна. Развалілі не толькі ахову здароўя — знішчылі краіну. І ў гэтых рэаліях нам сёння прыходзіцца жыць і працаваць. І разлічваць прыходзіцца толькі на сябе.

Мы многае маглі б вырашаць больш эфектыўна, калі б нашы саюзнікі былі больш прыстойнымі ў адносінах да Беларусі. Я маю на ўвазе перш за ўсё чарнобыльскую праблему. Чарнобыль стаў прычынай многіх нашых бед. І я лічу, што ў гэтым плане мы, і асабліва ўрачы, абавязаны патрабаваць не толькі ад кіраўніцтва краіны, але і міжнародных арганізацый: не правам чалавека нас трэба вучыць, не дэманстрацыі пасольстваў праводзіць на нашай тэрыторыі, а звярнуцца да той праблемы, да якой яны павінны звярнуцца, асабліва тыя дзяржавы, якія абавязаны сёння аказваць дапамогу ў частцы мінімізацыі наступстваў страшнай чарнобыльскай катастрофы. 25 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту штогод мы трацім на гэту бяду, бяду не нашу, а тую, якую нам прынеслі сюды, на нашу зямлю, і паклалі.

Але, тым не менш, паважаныя сябры, я, як кіраўнік дзяржавы, павінен — не для таго, каб пахваліць вас, а дзеля справядлівасці — сказаць наступнае: менавіта вы захавалі самую важную сферу жыцця нашага грамадства, самую важную галіну. Часам на патрыятызме. Гэта вы садзейнічалі таму, што не знішчана ахова здароўя. Калі б не ўрачы-практыкі, то чатыры, а можа, шэсць гадоў таму знішчылі б яе тым саставам Вярхоўнага Савета.

Я павінен падзякаваць вам яшчэ і за тое, што вы не перакрываеце вуліцы, не бастуеце. Наадварот, вы сёння — можна шчыра сказаць — апора стабільнасці ў нашай дзяржаве, калі хочаце, апора ўлады. І я рады, што сёння праблемы ставяцца глабальныя. Я рады, што людзі не кажуць, што шэсць месяцаў працуюць і не атрымліваюць заработнай платы. Больш за ўсё гучаць клопаты або трывога аб тым, што ва ўрача сёння не хапае самага сучаснага медыцынскага абсталявання, каб правільна паставіць дыягназ і лячыць хваробу. Гэта мяне, шчыра кажучы, радуе. І ў гэтым плане мы будзем рабіць усё, каб аказаць вам падтрымку.

Нам трэба сёння ў выніку гэтага вялікага сходу дамовіцца. І ў бліжэйшы час у выніку нашай дамоўленасці зрабіць адзін крок наперад у ахове здароўя нашай дзяржавы. Не думайце, што нам удасца зрабіць два крокі. Калі гэта будзе так, то было б вельмі добра. Няма сёння тых умоў, у выніку якіх мы зможам зрабіць некалькі крокаў. Трэба зрабіць адзін крок. І гэты крок можна зрабіць. Для таго, каб зрабіць гэты крок, рэальны крок наперад у ахове здароўя, трэба проста навесці элементарны парадак. І вырашыць тыя праблемы, якія сёння ляжаць на паверхні. Я лічу, што трэба паслядоўна вырашаць праблемы, якія «крычаць», якія мы можам і павінны вырашыць. І ў ходзе гэтага пачынаць падрыхтоўку да больш глыбокага рэфарміравання, або ўдасканалення, скажам так, сістэмы аховы здароўя, у тым ліку і пераходу да платнай медыцыны. Парасткі ўжо з'явіліся. Усё павінна зараджацца паступова.

Я абсалютна не згодзен з думкай урачоў, якія лічаць, што калі мы ўвядзём платную медыцыну, то ўрачы будуць жыць выдатна. Будуць, але не ўсе.

Меншасць. Але хіба цяпер у ахове здароўя нельга зарабляць сродкі? Можна. Ужо многія могуць добра заплаціць за паслугі ўрача, медыка. Стварайце спецыяльныя кабінеты, бярыце грошы. Частку аддасьце дзяржаве, на астатнія купіце лякарствы для ўсіх. І будзеце зарабляць як след. І падтрымку атрымаеце. Так паступова пяройдзем да платнай медыцыны.

Вы ўзнімалі пытанне аб тым, што ў нас ёсць праблема з жыллём, асабліва ў Гомельскай, Магілёўскай абласцях. Вы маеце рацыю. Але хачу, каб вы правільна разумелі не толькі мяне, але і нашу дзяржаву. Чатыры гады таму, нават тры, увогуле нічога не будавалася. Цяпер мы пераламалі сітуацыю. Пяць ці шэсць указаў прэзідэнта было прынята па гэтаму пытанню. Ні адна дзяржава ў свеце такой практыкі будаўніцтва свайму насельніцтву не прапанавала, асабліва ў той час, калі мноства праблем.

Мы пачалі будаваць — моладзі асобна, у вёсцы асобна. Правільна хтосьці казаў, што без здароўя не бывае эканомікі. Але для таго, каб жылі вартавыя здароўя — урачы, патрэбна моцная эканоміка. Не будзе гэтай эканомікі — не будзе ні зарплаты, ні сродкаў, каб купіць лекавыя прэпараты або медыцынскае абсталяванне. Таму я хачу, каб вы разумелі, што мы ўсё-такі рушылі ў пэўным напрамку. Не хапае пакуль крэдытных рэсурсаў пад жыллё. Трэба ўраду ўлічыць гэта пры фарміраванні праграмы на наступны год. А што датычыць урачоў Гомельшчыны, Магілёўшчыны і не толькі ўрачоў, а тых дэфіцытных спецыялістаў, якія там павінны працаваць, без жылля мы іх туды не прыцягнем. Я наогул лічу, калі мы дах над галавой чалавеку не дадзім, то няма чаго ад яго чагосьці патрабаваць — ні ад урача, ні ад настаўніка, ні ад рабочага, ні ад калгасніка.

(Заканчэнне на 2-й стар.)


**ОАО «Черметремонт»**

*ТРЕБУЮТСЯ НА ПОСТОЯННУЮ РАБОТУ:*

- ЭЛЕКТРОСВАРЩИКИ,
- СЛЕСАРИ МЕХАНОСБОРОЧНЫХ РАБОТ,
- СТАНОЧНИКИ ПО МЕТАЛЛООБРАБОТКЕ — *оплата от 8 млн. руб. в месяц;*
- РАБОЧИЕ СТРОИТЕЛЬНЫХ ПРОФЕССИЙ,
- СТРОПАЛЬЩИК,
- ИНЖЕНЕРЫ-ТЕХНОЛОГИ,
- СПЕЦИАЛИСТ ПО СОСТАВЛЕНИЮ СМЕТ — *оплата 5—8 млн. руб. в месяц.*

Телефоны: 293-41-73, 293-42-27.

*Копировальный аппарат*

**SHARP Z 810**

ВСЕГО за 810 у. е.



**«ТЦ СНАМИ»**

г. Минск, ул. Фабричная, 22.
Тел. (017) 227-22-55, 230-67-54, 230-57-61, 214-89-64. Факс (017) 210-52-25.

# ЗДАРОЎЕ НАЦЫІ — ВЫШЭЙШАЯ КАШТОЎНАСЦЬ ДЗЯРЖАВЫ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Што датычыць вашай пастаноўкі пытання па льготах, вы ведаеце маю пазіцыю: я катэгарычны праціўнік ільгот. Давайце мы лепш заработную плату людзям будзем павышаць. Заработная плата павінна быць дастатковай для таго, каб чалавек мог вырашыць свае праблемы. А калі мы пойдзем па шляху льгот, то заўтра зноў уся краіна стане льготнікам. Мы ўжо ад гэтай праблемы адышлі. Хто на гэтыя льготы будзе працаваць? Не, гэта не шлях. Я не кажу аб тым, што льгот наогул не павінна быць. Інвалідаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны мы абавязаны падтрымліваць і дапамагаць ім. Мы абавязаны ім сваім жыццём і існаваннем нашай дзяржавы. Ёсць і іншыя катэгорыі асоб, людзей у нашым грамадстве, якіх мы павінны падтрымліваць. Але вяртацца да павальных ільгот, паверце, у нас для гэтага няма сродкаў, і гэта вельмі і вельмі несправядліва.

Я глыбока перакананы, паважаныя сябры, што сённяшняя сустрэча будзе прыметнай падзеяй у жыцці беларускай медыцыны і ўсяго нашага грамадства. Упершыню ў гісторыі нашай краіны ўрачы розных спецыяльнасцяў, арганізатары аховы здароўя, кіраўнікі ўрада і Нацыянальнага сходу сабраліся на прадстаўнічы медыцынскі форум.

Мэта гэтай сустрэчы — прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем аховы здароўя, прааналізаваць стан гэтай важнейшай галіны, выявіць у ёй асноўныя «болевыя кропкі». Але самае галоўнае — прыняць эфектыўныя рашэнні, накіраваныя на паляпшэнне здароўя і якасці жыцця насельніцтва.

Стратэгію вываду краіны з крызісу, яе сацыяльна-эканамічнага ўздыму мы выбралі правільную. Аб гэтым гавораць вынікі нашай работы. Я не буду іх называць. Вы людзі граматныя. Гледзіце тэлевізар, слухаеце радыё, чытаеце газеты, вы бачыце сітуацыю, ведаеце лічбы нашай эканомікі. Мы маем тэндэнцыю росту і валавога ўнутранага прадукту, і сельская гаспадарка ў нас крыху ўзнімаецца, і прамысловасць расце. Паўстае пытанне: чаму ж гэтак жа хутка не паляпшаецца жыццё? Я хачу, каб вы разумелі, што мы не прыбаўляем да таго ўзроўню, які ў нас быў у 90-я гады ў савецкія часы. Мы яшчэ да гэтага ўзроўню ідзём. Мы «грымнуліся» больш як на 30 працэнтаў у выніку развалу дзяржавы і рэформаў, пачатых у тыя ж 90-я гады. А падняліся толькі на 17 працэнтаў. Наперадзе яшчэ 13 найскладанейшых, вельмі цяжкіх працэнтаў, якія мы павінны адолець да 2001 года. Таму сёння проста неразумна гаварыць і папракаць, што мы пачалі прыбаўляць, а жывём горш. Вядома горш, таму што мы яшчэ ўзроўню тых часоў застойных не дасягнулі.

Але я перакананы, яшчэ раз падкрэсліваю, што шлях стварэння нашай дзяржаўнасці, шлях удасканалення нашай эканомікі выбраны правільны. Мы не можам радыкальна ісці, дапускаць вялікія памылкі, дзіркі. У нас няма нафты, газу, якія можна прадаць, а сродкі пусціць на выпраўленне няправільных дзеянняў. Мы многае зрабілі. І ў адукацыі, і ў культуры. А самае галоўнае, мы не пайшлі шляхам разбурэння таго, што было створана дзесяцігоддзямі. Наша рэформа заключаецца ва ўдасканаленні таго, што засталося нам ад папярэдніх пакаленняў і ад нас саміх. Мы ўсе разам з вамі сваімі рукамі стварылі тое, што ў нас сёння ёсць, і нельга сёння гэта ўсё зламаць.

Вядома ж, за нашай работай сёння пільна назіраюць. Як у блізкім, так і далёкім замежжы. Для многіх — мы прыклад і надзея. Мы шчыра цэнім салідарнасць і падтрымку нашых сяброў. Але мы ведаем таксама, што ў Беларусі ёсць і шмат непрыяцеляў, якія са злосцю адносяцца да нашых, хоць і маленькіх, поспехаў. Ім вельмі не падабаецца шлях, які мы выбралі. Яны пускаюцца ў ганебныя правакацыі. Нязначную камунальную дробязь раздуваюць да ўзроўню міжнароднай праблемы.

Рэспубліка Беларусь вызначыла стратэгію развіцця краіны і базавых галін на бліжэйшую перспектыву. Я думаю, што ў бліжэйшы час мы прапануем нашаму грамадству Канцэпцыю сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы да 2015 года.

Адно з прыярытэтных месцаў у ёй належыць ахове здароўя. І гэта можна растлумачыць. Здароўе людзей — аснова моцнай дзяржавы.

Пытанне аб з'ездзе ўрачоў узнікала і два, і тры гады таму. Але я думаю, мы не маглі раней, два-тры гады таму, збірацца і абмяркоўваць праблему — яна яшчэ не выспела, каб мы маглі ацаніць сітуацыю і вызначыць перспектыву.

Сёння няхай цяжкія, але ўсё ж крыху іншыя часы. Развіццё нашай эканомікі, сацыяльна-палітычная стабільнасць краіны дае магчымасць абмяркоўваць і прымаць як стратэгічныя, так і тактычныя рашэнні ў важнейшай галіне сацыяльнай сферы — такой, як ахова здароўя.

Сёння для нас прынцыпова важна вызначыць сваю пазіцыю: якая нам патрэбна медыцына? І які ўзровень медыцынскага абслугоўвання, з улікам палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, мы можам мець.

Я вітаю тое, што на з'ездзе разам з бягучымі праблемамі ідзе зацікаўленая размова аб Канцэпцыі развіцця аховы здароўя, абмяркоўваюцца палажэнні Дзяржаўнай праграмы «Здароўе нацыі». Гэта, вядома, комплексныя дакументы доўгатэрміновай нацыянальнай палітыкі ў галіне аховы здароўя, якія вызначаць стратэгію яе развіцця на бліжэйшы час і перспектыву.

Я падтрымліваю гэтыя дакументы. У рэалізацыю гэтых праграм павінны ўключыцца ўсе дзяржаўныя структуры і ўсе галіны народнай гаспадаркі. Урад павінен улічваць ключавыя палажэнні гэтых дакументаў і пры фарміраванні бюджэту, і пры складанні бягучых і перспектыўных планаў сацыяльна-эканамічнага развіцця нашай дзяржавы.

Але першае, з чым мы павінны суадносіць нашы ацэнкі і нашу стратэгію, — гэта Канстытуцыя нашай краіны. У яе палажэннях закладзена гарантаваная дзяржавай бясплатная, даступная медыцынская дапамога насельніцтву. Ад гэтага мы не адступімся ні пры якіх абставінах! Гэта воля народа — Канстытуцыя прымалася на рэферэндуме!

Па-другое, у сваёй стратэгіі мы павінны ўлічваць сусветны вопыт развіцця медыцыны, развіццё аховы здароўя ў іншых краінах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. І, нарэшце, рэальныя магчымасці ўласнай эканомікі. Мэта — дасягнуць у перспектыве высокіх стандартаў сусветнай медыцыны, аб чым я ўжо казаў.

Аналіз вопыту пераўтварэнняў у іншых краінах СНД, у тым ліку і ў Расіі, пераканаўча паказаў, што пераход да медыцынскага страхавання выклікаў мноства негатыўных вынікаў. Мы выбралі іншы шлях і, як аказалася, больш правільны. Дзякуючы намаганням дзяржавы, усёй арміі медыцынскіх работнікаў краіны, асабліва ў апошнія гады, не дапушчана развалу сістэмы аховы здароўя, створанай у мінулыя, савецкія часы. Сёння ў краіне дзейнічае шырокая сетка лячэбна-прафілактычных устаноў, працуюць навукова-даследчыя інстытуты, якія ў сваёй практыцы выкарыстоўваюць найноўшыя тэхналогіі. Дастаткова прывесці такі прыклад. У канцы 80-х гадоў у Беларусі было 13 навукова-даследчых інстытутаў медыцынскага профілю. Цяпер іх — 14. Скарачэння навуковых даследаванняў, накіраваных на распрацоўку новых метадаў дыягностыкі і лячэння, не адбылося.

Не толькі захавалася, але і атрымала развіццё лячэбная база. Яна сёння сфарміравана як закончаная і гібкая структура: ад фельчарска-акушэрскіх пунктаў у вёсцы да сучасных спецыялізаваных медыцынскіх цэнтраў.

Ідзе абнаўленне медыцынскага абсталявання. І што асабліва важна — яго вытворчасць наладжана на нашых айчынных прадпрыемствах.

Такія падыходы далі магчымасць за апошні год павялічыць аб'ёмы медыцынскіх паслуг, што аказваюцца насельніцтву. Усё гэта выгадна адрознівае нас ад блізкіх і далёкіх суседзяў. Але самае галоўнае — рэспубліка захавала даступную і бясплатную медыцыну, дзяржаўную падтрымку галіны.

Гарантаванае забеспячэнне ўстаноўленага аб'ёму бясплатнай медыцынскай дапамогі ў дзяржаўных установах аховы здароўя — павінна захавацца і ў перспектыве. Спецыяльна падкрэсліваю для грамадзян Рэспублікі Беларусь: бясплатная медыцынская дапамога за кошт бюджэту краіны была і будзе. Гэта прынцып, які павінен быць безумоўна захаваны пры распрацоўцы ўсіх дзяржаўных планаў і праграм.

Па-трэцяе, найважнейшай стратэгічнай задачай з'яўляецца развіццё і ўмацненне прафілактычнага напрамку. Урачу не трэба нагадваць вядомую ісціну аб тым, што хваробу лягчэй папярэдзіць, чым лячыць. Медыцынская прафілактыка павінна мець дзяржаўны і міжведамасны ўзровень. Толькі агульнымі намаганнямі можна ўмацаваць тэндэнцыю станоўчых змяненняў, якая намецілася ў ахове здароўя краіны. Лічу, што менавіта такое разуменне праблем павінна быць пастаўлена ў аснову асноў Нацыянальнай праграмы ўмацавання здароўя насельніцтва.

Поспехі ў ахове здароўя ў многім залежаць ад самога чалавека. Шчыра скажам — каштоўнасць здаровага ўкладу жыцця ў грамадстве, на жаль, не ўсімі ўспрымаецца сур'ёзна. Прапаганду здаровага ўкладу жыцця ў краіне засланіла рэклама чараўнікоў і знахароў, сумніўных харчовых дабавак і метадаў лячэння. У нашых сродках інфармацыі няма сур'ёзных парад па рацыянальнаму харчаванню, аптымальнай фізічнай актыўнасці, рэжыму працы і адпачынку. І тут я яшчэ раз хачу сказаць пра тэлебачанне. Яно ў нас дзяржаўнае. Дык чаму вы не выкарыстоўваеце яго, не ўзнімаеце свае тэмы?

Час не толькі сістэме Міністэрства аховы здароўя мяняць арыентацыі.

У свеце ёсць цудоўныя ўзоры для пераймання і рэкламы здаровага ўкладу жыцця. Напрыклад, у Еўропе 500 гарадоў аб'яднаны ў адзіную сетку «здаровых гарадоў». У гэтых гарадах прапаведуецца культ здароўя, а жыхароў аб'ядноўвае здаровы ўклад жыцця. Чаму б нам не пайсці па такому шляху? Чаму не запазычыць такі вопыт? Я гатовы падтрымаць любую канструктыўную ініцыятыву ў гэтым напрамку. Глыбока перакананы, што прапаганда здаровага ўкладу жыцця не можа зводзіцца толькі да вядомага лозунга «Міністэрства аховы здароўя папярэджвае!»

Традыцыю масавага фізкультурнага руху таксама трэба адраджаць. І справа тут не толькі за дзяржавай. Час пераадолець уласную пасіўнасць і ляноту. Вядома, запатрабуецца час. Але аднавіць тое, што страчана за некалькі мінулых гадоў у культуры вольнага часу, — проста жыццёвая неабходнасць.

Медыкам трэба дапамагчы ў гэтым важным напрамку прафілактычнай работы. У дзяржаўнай Праграме «Здароўе нацыі» закладзены асобны блок мераў па развіццю культуры вольнага часу, фізкультуры і масавага спорту. Ён павінен «спрацаваць», у перспектыве паляпшаючы паказчыкі здароўя.

Некалькі слоў аб бягучых задачах медыцыны і яе асноўных праблемах.

Важнейшай задачай рэспубліканскай аховы здароўя з'яўляецца развіццё першаснай медыцынскай дапамогі, асабліва ў вёсцы. Аб гэтым вы гаварылі тут, і гаварылі вельмі правільна. На нядаўняй нарадзе па праблемах аграпрамысловага комплексу ў Гродне мы вызначылі стратэгічныя контуры сацыяльнай сферы вёскі. Пытанні аховы здароўя павінны заняць у ёй прыярытэтнае месца. Сельская бальніца і сельскі ФАП чакаюць падтрымкі мясцовых уладаў. Бальніцы павінны з мясцовых бюджэтаў атрымліваць усё, што ім належыць. Кіраўнікі гаспадарак, прадпрыемстваў таксама абавязаны аказваць рэальную дапамогу ў аздараўленні людзей.

Медыцына, вядома, не павінна спыняцца на першаснай дапамозе. Неабходна ўмацоўваць і базу спецыялізаваных медыцынскіх цэнтраў. Трэба падтрымаць іх арганізацыйна, вызначыць іх статус, даць ім адпаведнае фінансаванне.

Я ведаю, што Міністэрства аховы здароўя пачало эксперымент па падрыхтоўцы ўрача агульнай практыкі. У канцы года ўжо можна будзе падводзіць пэўныя вынікі. Калі эксперымент сябе апраўдае — трэба пераходзіць да шырокай практыкі падрыхтоўкі ўрача такога профілю. Па-мойму, тут хтосьці ўжо аб гэтым таксама гаварыў у станоўчым плане.

Наспела пытанне і аб распрацоўцы дзяржаўных праграм па асобных напрамках: такіх, як анкалогія, кардыялогія, цукровы дыябет і іншыя. Міністэрству аховы здароўя неабходна ў бліжэйшы час прадставіць адпаведныя праекты для іх разгляду і зацвярджэння ўрадам.

Адзначу некаторыя «болевыя» кропкі нашай медыцыны.

У сціслыя тэрміны Міністэрству аховы здароўя неабходна перагледзець устарэлыя загады, інструкцыі і дзеючыя нарматыўныя акты, каб унесці прапановы па ўдасканаленню работы галіны з улікам новых рэалій, пашырэннем платных паслуг. Адкрыта скажам, што заканадаўства сёння не паспявае за дынамічнымі працэсамі, і ўсе заканадаўчыя органы, вядома, у першую чаргу Нацыянальны сход, павінны аказваць дапамогу і працаваць больш актыўна.

Аб матэрыяльнай базе ў ахове здароўя. У цэлым нам яе ўдалося захаваць. Але, вядома, яна вымушае жадаць лепшага. І справа не толькі ў тым, каб будаваць і дабудоўваць новыя аб'екты. Трэба навучыцца і ўтрымліваць тое, што мы маем. Своечасова праводзіць неабходны рамонт, падтрымліваць чысціню і парадак. І грошы для гэтага трэба больш актыўна шукаць ва ўсіх катэгорый нашых «новых» людзей.

І яшчэ адна праблема, якая пастаянна павінна быць у цэнтры ўвагі. Насельніцтва Беларусі, як вядома, аказалася заложнікам чарнобыльскай бяды. Я ўжо аб гэтым гаварыў. Пры ацэнцы здароўя беларускай нацыі, распрацоўцы перспектыўных і бягучых задач гэта абавязкова павінна быць улічана. Неадкладнай задачай урада, кіраўнікоў «вертыкалі» павінна быць няўхільнае выкананне ўсіх абавязацельстваў па чарнобыльскіх праграмах.

У свой час на Першым з'ездзе настаўнікаў рэспублікі адбылася сур'ёзная размова аб здароўі вучняў. Такой высокай аўдыторыі няма неабходнасці гаварыць аб тым, што здароўе нацыі закладваецца ў дзяцінстве, а значыць і ў школе. Аднак не сакрэт, што большасць дзяцей прыходзяць у першы клас з цэлым «букетам» захворванняў.

Вельмі трывожыць, што ў агульнаадукацыйных школах становішча не мяняецца да лепшага. Дзеці перагружаныя, мала ўвагі ўдзяляюць фізкультуры і спорту, рухомым гульням. Гэта пытанне было прадметам спецыяльнай размовы на нарадзе ў прэзідэнта пры абмеркаванні рэформы школы. Цяпер працуе камісія, і ў бліжэйшы час мы прымем канчатковае рашэнне.

Некалькі слоў аб медыцынскай навуцы.

Лічу, што медыцынская навука заслугоўвае быць выдзеленай у самастойны напрамак. Але як арганізацыйна лепш зрабіць — давайце падумаем. А пакуль будзем думаць, давайце не будзем ламаць тое, што ёсць.

Таленавітыя даследчыкі і арганізатары навукі заўсёды былі гордасцю беларускай медыцыны. І гэтыя традыцыі сёння паспяхова прадаўжаюць маладыя беларускія вучоныя-медыкі. Гордасцю нацыянальнай аховы здароўя з'яўляецца яе кадравы патэнцыял.

У рэспубліцы сёння працуе плеяда выдатных вучоных-медыкаў і ўрачоў, якія практыкуюць, армія клапатлівых і ўмелых медыцынскіх сясцёр, фельчараў і акушэраў. Многія з іх сёння знаходзяцца ў гэтай зале. Гэта Фёдар Антонавіч Багдановіч — галоўны ўрач Цэнтра медыцынскай рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў горада Гродна, загадчык кафедры Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута Сяргей Іванавіч Леановіч, загадчыца аддзялення 2-й мінскай гарадской клінічнай бальніцы Дзіяна Віктараўна Нікалаева, лечачы фельчар Радзігераўскай урачэбнай амбулаторыі Лунінецкага раёна Іван Мікалаевіч Піліпцэвіч. Сёння яны і іх калегі будуць удастоены дзяржаўных узнагарод і Ганаровых званняў Рэспублікі Беларусь. А іншыя ўжо адзначаны па выніках агляду-конкурсу за павышэнне якасці і культуры медыцынскага абслугоўвання насельніцтва.

Урач заўсёды ў айчынных традыцыях увасабляў сабой інтэлігента і патрыёта. І, вядома, людзі ў белых халатах павінны ў поўнай меры адпавядаць высокім патрабаванням культуры і маралі. Этычны кодэкс урача, які трэба будзе абмеркаваць і прыняць на з'ездзе, павінен падкрэсліць і замацаваць тую ролю, якая адводзіцца ўрачу ў сучасным грамадстве.

Я шчыра ўдзячны ўсім работнікам практычнай аховы здароўя, якія стаяць на варце здароўя нацыі, за вашу вернасць прафесійнаму абавязку, за падзвіжніцтва і палітычную мудрасць. Дзяржава зробіць усё, што дазволяць нам сённяшнія магчымасці, для паляпшэння ўмоў работы і жыцця нашых урачоў.

Сёння, дзякуючы тэндэнцыі макраэканамічнага росту, якая намецілася, крыху палепшылася фінансаванне аховы здароўя. Хацелася б, каб гэтыя выдзеленыя з бюджэту грошы былі выкарыстаны з максімальнай аддачай.

Цяпер па прапановах Міністэрства аховы здароўя ўрадам унесены праект Указа аб мерах па сацыяльнай падтрымцы работнікаў устаноў аховы здароўя. Я вельмі прашу вас у вузкім коле на секцыйных пасяджэннях, якія ў вас адбудуцца, паглядзець на праект гэтага ўказа і выказаць сваю прынцыповую думку па ім.

Можаце не сумнявацца, што рэальная дапамога ўрачам і ўсім медыцынскім работнікам будзе аказвацца з боку дзяржавы і ў далейшым.

Урачу добра вядома: змагацца з сур'ёзнай хваробай можна толькі з дапамогай адпаведных сродкаў. Сучасная айчынная медыцына мае багаты асартымент лекавых прэпаратаў. Але ёсць тут і свае праблемы.

Укараненне рыначных механізмаў у сістэму лекавага забеспячэння прывяло да таго, што ў СНД, і ў Беларусі ў прыватнасці, пачалася прыватызацыя фармацэўтычнага сектара. Праведзеная рэарганізацыя дала магчымасць насыціць беларускі рынак лякарствамі. Аднак цэны на медыкаменты ўзраслі і часам дасягаюць астранамічных памераў. Набыццё медыкаментаў з-за іх высокіх цэн стала праблемай для многіх грамадзян і медыцынскіх устаноў.

Праверка па гэтаму пытанню Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь да таго ж паказала, што ў рэспубліцы адсутнічае скаардынаваная палітыка ў галіне закупак лекавых прэпаратаў. На практыцы гэта вядзе да неэфектыўнага выкарыстання значных бюджэтных сродкаў. Мы пусцілі гэту работу на самацёк, мяркуючы, што рынак усё адрэгулюе. Вось ён нам і адрэгуляваў.

Я папрасіў трымаць гэту праблему пад асобым кантролем. Часткова ўрад упарадкаваў гэта пытанне. Цяпер прапрацоўваецца праект рашэння аб прыярытэтным выдзяленні валюты ўстановам і прадпрыемствам сістэмы аховы здароўя для закупак жыццёва важных лякарстваў і вырабаў медыцынскага прызначэння, медыцынскай тэхнікі. Думаю, што гэта дасць магчымасць у нейкай меры адрэгуляваць сітуацыю з цэнамі на медыкаменты.

Кіраўнік фармацэўтычнага прадпрыемства тут узнімала пытанне па цэнаўтварэнню. Хачу вам сказаць, тым, хто купляе лекавыя прэпараты, наступнае. Калі вы гаворыце, што 2 працэнты росту цэн у месяц гэта недастаткова, то я пачынаю ўсё больш і больш задумвацца, хто купляе лякарствы і дзе. Што значыць 2 працэнты недастаткова? Па году ж гэта 24 працэнты інфляцыі! У Расіі 6—9 працэнтаў у год. Вы ў Расіі, у асноўным, купляеце гэтыя прэпараты. Інфляцыі на Захадзе ўвогуле няма. Будзем раскручваць яе ў сябе? Да чаго гэта прывядзе? Гэта прывядзе да таго, што валюты не будзе ўвогуле.

Трэба таргавацца. Трэба паглядзець, па якой цане купіць за межамі нашай дзяржавы, ды і ў нашай дзяржаве таксама.

Вы ўвозіце дарагія прэпараты, а часам нашы, такія ж, у аптэках адсутнічаюць. Дык вы пакладзіце, калі ласка, побач свае і імпартнае. Выбера чалавек суперякасны прэпарат — заплаціць у два разы даражэй, а той, хто хоча танней, купіць наша лякарства.

Валюту трэба берагчы. Па-першае, у нас яе крайне недастаткова. Па-другое, ёсць праблема з курсаўтварэннем. Беларускі рубель— валюта маладая. Каб ён быў устойлівым, наш рубель, патрэбны валютныя рэзервы, якія раней былі саюзнымі. А нам іх трэба будзе ствараць за кошт павышэння эфектыўнасці работы сферы матэрыяльнай вытворчасці, умелага знешняга гандлю.

Улічваючы той факт, што айчынная прамысловасць задавальняе патрэбнасці ўстаноў аховы здароўя і насельніцтва толькі на 25 працэнтаў ад аб'ёму спажываемых лякарстваў, ураду неабходна са свайго боку забяспечыць жорсткі кантроль за ходам выканання Праграмы па развіццю фармацэўтычнай прамысловасці. Час уводзіць дзяржзаказ на лекавыя сродкі, што вырабляюцца на фармацэўтычных прадпрыемствах краіны, больш актыўна стымуляваць іх вытворчасць.

Неабходна таксама ўпарадкаваць функцыянаванне аптэчнай сеткі недзяржаўнай формы ўласнасці. У нас ёсць нядрэнныя магчымасці дасягнуць стабільнага лекавага забеспячэння насельніцтва. Ёсць у рэспубліцы і праблема нелегальнага распаўсюджвання незарэгістраваных лекавых прэпаратаў. Лічу, што і заканадаўчым органам трэба прыняць адпаведныя меры. Штрафамі і пазбаўленнямі ліцэнзій тых, хто займаецца кантрабанднай дзейнасцю, рызыкуючы здароўем і жыццём, абмяжоўвацца нельга. Вельмі высокую цану можна тут заплаціць, калі своечасова не прыняць меры. І рабіць грошы на людской бядзе нікому не будзе дазволена.

Яшчэ адна вострая праблема ў забеспячэнні здароўя чалавека звязана з пранікненнем на спажывецкі рынак няякасных, а то і небяспечных для жыцця тавараў. Статыстыка вельмі трывожная: толькі за мінулы год рэспубліканскі Цэнтр экспертыз і даследаванняў у ахове здароўя забараніў продаж на нашым рынку больш як 5 тысяч відаў тавараў народнага спажывання, у асноўным імпартнай вытворчасці, як неадпаведных неабходным нарматывам. А размова ж ідзе не толькі аб прадуктах харчавання, але і аб таварах для дзяцей, нават некаторых відах адзення.

Зыходзячы з такіх фактаў (а гэта ж не жарт — 5 тысяч найменняў вырабаў за год!), дзяржава будзе ажыццяўляць жорсткі кантроль за якасцю ўвозімых тавараў, прадуктаў харчавання і медыкаментаў.

Выйсце мы таксама бачым і ва ўсямернай падтрымцы айчыннай вытворчасці.

Асаблівай увагі патрабуе пытанне харчавання дзяцей у дашкольных і школьных установах. Калісьці краіна славілася арганізацыяй школьнага харчавання. Мы захавалі, на шчасце, гэту сістэму. І сёння мы маем на месцах паказальныя прыклады пастаноўкі гэтай справы. Аднак ёсць, на жаль, і іншыя факты. У рэспубліцы з'явіліся аматары пажывіцца за кошт школьнага снедання. Ганьба! У тым ліку — я іх не магу назваць — прадстаўнікі аховы здароўя.

На жаль, слаба вырашаюцца і пытанні па арганізацыі дзіцячага харчавання, асабліва грудных дзяцей. У Мінску, напрыклад, адзіная малочная кухня для дзяцей груднога ўзросту. Можна ўявіць, якія выпрабаванні выпадаюць на долю маці, якія вымушаны штодзень ездзіць за харчаваннем для дзяцей з аднаго канца горада ў другі. Думаю, што не лепшае становішча і ў іншых гарадах.

Я вельмі прашу і ўрад, і вас, Уладзімір Васільевіч Ярмошын, тэрмінова разабрацца з гэтай праблемай. І калі патрэбна падтрымка, скажыце. Але гэту праблему трэба вырашаць.

Паважаныя таварышы!

Захаванне і ўмацаванне здароўя беларускай нацыі, якая шмат вынесла на сваім вяку, з'яўляецца першачарговай задачай кіраўніка дзяржавы і ўрада. А вырашаць гэту задачу мы можам толькі разам з вамі!

Жыццё чалавеку дае маці. Душой і сэрцам сваім засланяе яна сваіх дзяцей ад бяды. А яшчэ ўрач і настаўнік пакідаюць найбольш значны след у жыцці чалавека.

Ад першага крыку нованароджанага з намі ўрач, сястрычка, нянечка. Яны часта чуюць і апошні чалавечы ўздых.

Я назваў бы прафесіі ўрача і настаўніка прафесіямі не толькі сацыяльнымі, але і палітычнымі. У прамым сэнсе гэтага слова. Толькі яны могуць так высока ўзняцца над сваімі ўласнымі бедамі і клопатамі, што здольны прыглушыць чужы боль, абудзіць радасць жыцця. Па тым, як яны працуюць, як самі жывуць, як ставяцца да іншых, людзі мяркуюць аб усёй краіне, аб грамадстве ў цэлым. Зямны паклон вам за гэта, паважаныя, дарагія нашы дактары!

Сёння мы фарміруем палітычную стратэгію беларускай дзяржавы з перспектывай развіцця краіны ў XXI стагоддзі. А палітыка па-за чалавечым вымярэннем проста не існуе. Тады гэта не палітыка, а палітыканства.

Фарміраванне здаровай, упэўненай у сваіх сілах нацыі, якая здольна дасягнуць вышынь сучаснага эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу, — гэта задача айчыннай аховы здароўя. Нам трэба будзе пераадолець сучасную дэмаграфічную сітуацыю, дабіцца росту працягласці жыцця беларусаў, умацаваць сям'ю, забяспечыць высокі ўзровень фізічнага развіцця насельніцтва, асабліва моладзі. У XXI стагоддзе мы абавязаны ўступіць з добрымі задзеламі ўстойлівага развіцця ўсёй інфраструктуры народнай аховы здароўя, забяспечыць высокі сацыяльны статус урача, яго дастойны ўзровень жыцця.

Карыстаючыся выпадкам, я шчыра віншую вас, усіх медыкаў краіны з Днём медыцынскага работніка!

Я жадаю ўсім вам творчых поспехаў у вашай высакароднай справе — ахове здароўя нашай нацыі, вашым блізкім і сем'ям — шчасця і дабрабыту.

Дзякую за ўвагу.

*(Апладысменты.)*

ЗВЯЗДА
30 чэрвеня 1998 г.



# ЕЎРАПЕЙСКІЯ КРАІНЫ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ ЖЫЦЬ АДНОЙ СЯМ'ЁЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Закрануўшы праблему ад'езду замежных дыпламатаў з Мінска, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што зрабілі яны гэта пад уплывам амерыканскага пасла. Пры гэтым ён акцэнтаваў увагу на тым факце, што выехалі ўсяго шэсць паслоў, а засталося дваццаць. Гэта з'яўляецца сведчаннем неадназначнага ўспрымання дыпламатамі працэсаў, што адбываюцца ў Беларусі.

У ходзе выступлення Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на той факт, што ў Беларусі захоўваецца стабільная сацыяльная раўнавага. Таму нават у гэтым плане Еўропа павінна быць зацікаўлена ў супрацоўніцтве з нашай краінай. «Праз Беларусь, — сказаў ён, — праходзяць транзітныя шляхі з Захаду на Усход, і парадак і стабільнасць у краіне забяспечваюць замежным бізнесменам поўную бяспеку». Што датычыць эканамічнага супрацоўніцтва, то прэзідэнт падверг крытыцы парадкі, якія пануюць на еўрапейскім рынку. «Беларусь, — адзначыў ён, — абвінавачваюць у неправядзенні рыначных рэформаў. Разам з тым, нас не пускаюць на еўрапейскі рынак, у той час як заходнія дзяржавы імкнуцца прадаваць свае тавары на нашым». Ён звярнуўся да заходніх партнёраў з заклікам канкурыраваць на рынку.

Выступленне кіраўніка беларускай дзяржавы суправаджалася грубымі выпадамі з боку журналіста тэлекампаніі «Франс-3», які вёў дыскусіі. Раз-пораз ён спрабаваў перапыніць прамову Аляксандра Лукашэнкі і пераключыць увагу на праблему ад'езду паслоў заходніх краін з Мінска. Прэзідэнт Беларусі заклікаў апанентаў да цывілізаванай размовы, што, аднак, не было пачута. У яго адрас было выказана нямала папрокаў, якія датычаць парушэння правоў чалавека ў нашай рэспубліцы і нежадання кіраўніка дзяржавы праводзіць дэмакратычныя пераўтварэнні. Пасля прыбыцця са Швейцарыі Аляксандр Лукашэнка расцаніў абстаноўку, што панавала на форуме ў час яго выступлення, як загадзя дакладна спланаваную правакацыю.

Знаходзячыся ў Кран-Мантане, Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю праграме навін Швейцарскага тэлебачання і інфармацыйнай праграме тэлекампаніі «Еўраньюс». Адказваючы на пытанні журналістаў, ён яшчэ раз пацвердзіў гатоўнасць Беларусі да дыялога, як у кожным канкрэтным выпадку, маючы на ўвазе інцыдэнт з замежнымі пасламі, так і па шырокаму колу пытанняў. Аднак, падкрэсліў прэзідэнт, абавязковай умовай такога дыялога павінна быць жаданне другога боку ўдзельнічаць у ім.

БЕЛТА.



# Дзе папараць-кветка? У «Дудутках»!

**Музей матэрыяльнай культуры «Дудуткі», размешчаны на беразе Пцічы паблізу вёскі Дудзічы, на зямлі, якая некалі належала памешчыкам-асветнікам Ельскім, раз у год праводзіць грандыёзнае па нашых айчынных мерках мерапрыемства. У «Дудуткі» прыязджаюць самыя розныя, вядомыя і радавыя, знакамітыя і не надта акцёры, музыканты, пісьменнікі, чыноўнікі... Прыязджаюць на традыцыйны фэст старасвецкай культуры. Заўсёды на фэсце, што праходзіць на ўсёй тэрыторыі арандаванай «Паліфактам» (выдавецкая фірма і заснавала прыватны музей матэрыяльнай культуры) зямлі, — і на цэнтральнай з музейнымі пабудовамі сядзібе, і на беразе Пцічы ля рыбацкай хаты, — весела, шумліва.**

Яно і зразумела. Арганізатары фэста на чале з Яўгенам Будзінасам, Валерыяй Кліцуновай, Тамарай Станкевіч (пералік можна доўжыць, з году ў год шырыцца кола людзей, па-добраму нераўнадушных да «Дудутак») імкнуліся наладзіць святочную праграму каб цікава было самым розным людзям. Як і летась, як і тры гады таму, працаваў музычны салон «У маёнтку Ельскіх». Імёны выканаўцаў, што дзівоснай ігрой сваёю паланілі сапраўдных знаўцаў, прыхільнікаў класічнай музыкі, вядомыя ўсёй краіне, ды і за мяжою таксама.

Ужо калі «дудуткаўскае» свята засталося ззаду, ёсць час паразважаць пра тое, што ёсць такое на самай справе прыватны музей матэрыяльнай культуры, каму ён патрэбны і ці патрэбны ўвогуле нашай краіне. Па-першае, сам факт існавання прыватнага музея — з'ява для Беларусі унікальная. Праўда, і чыноўнікі ад культуры, здаецца, разумеюць гэта. Часам — значыць тады, калі ёсць патрэба альбо мерапрыемства ў «Дудутках» правесці, альбо нетрадыцыйны для Беларусі музей чужаземным гасцям паказаць. Можа і грубавата гэта гучыць, але часам у мяне складваецца ўражанне, што будзінасаўскі музей проста «скарыстоўваюць». Здарыцца якая праблема, напрыклад, з формай уласнасці, зямлю пачнуць у «Паліфакта» адбіраць (альбо ліцэнзію на выраб выдавецтвам «Паліфакт» каштоўных папер, тым выдавецтвам, грошы з якога цякуць на ўтрыманне музея) ці яшчэ штонебудзь прыдумаюць — невядома, хто за «Дудуткі» ўступіцца. Прыемнага ў гэткай вось недагаворанасці мала. Павінен усё ж такі тут, у стасунках музея з Міністэрствам культуры (і праз яго ў першую чаргу з дзяржавай), быць знойдзены нейкі пэўны, канкрэтны варыянт. На памяць прыходзіць чэрвень 1995 года, калі першы дудуткаўскі фэст супаў з правядзеннем Міжнароднай канферэнцыі «Музеефікацыя гістарычных тэрыторый». Шмат прыгожых і, здаецца, на канкрэтныя справы зарыентаваных, прагучала там слоў. Але і прамоўцы, і іх прапановы-праекты —усё гэта засталося ў тым часе. А музей «Дудуткі», хоць і сам па сабе, але рухаецца наперад, прарываецца ў новы час. Добра было б, каб і дзяржава ішла калі не наперадзе яго, то хаця б крок у крок. Добра было б, каб дзяржава, чыноўнікі заўважылі, што развіваць справу, пачатую Будзінасам, у сённяшніх эканамічных умовах — справа самаахвярная, справа, якая наўрад ці заўтра яшчэ сталы прыбытак прынясе.

Па-другое, аналізуючы апошнія захады музея па развіццю шырокай турыстычнай работы, падумалася, што актыўнымі партнёрамі прыватнага музея маглі б стаць два міністэрствы, два ведамствы — спорту і турызму, і адукацыі. У прынцыпе, першае з іх ужо праяўляе відавочную цікавасць да «Дудутак». Другое — той рух, які ўжо развіўся, асабліва сярод сталічных школ, па азнаямленню з музеем матэрыяльнай культуры мог бы быць прыведзены ў пэўную сістэму. «Дудуткі» маглі б прыняць на сябе цяжар па правядзення многіх мерапрыемстваў, а Міністэрства адукацыі, мажліва, паспрыяла правядзенню ў жыццё пэўнага сур'ёзнага праекта, звязанага з матэрыяльнымі затратамі.

У свой час вялікага газетнага шуму нарабіў папяровы праект «Залатое кола Беларусі». Ідэя, выкладзеная на многіх старонках, так і засталася пражэктам. Прычына, думаецца, не толькі ў адсутнасці трывалай дзяржаўнай увагі да праекта, а, хутчэй, у незбалансаванасці асноўных ідэй, закладзеных у «Залатым коле Беларусі», у павярхоўнасці і некаторым, прабачце, прымітывізме падыходаў. Відаць, яшчэ не прыйшоў той час, калі адным толькі заклікам, кінутым у паветра, можна нешта пераварнуць... «Дудуткі» — іншая справа. І мо ў такім разе зусім лагічна будзе, калі вакол «Дудутак», з «Дудутак» пачнецца няхай сабе не «залатое...», а хаця б малое турыстычна-вандроўніцкае беларускае кола, умоўна кажучы?.. Тым болей, што будзінасаўскі музей зарэкамендаваў сябе як установа, здольная спалучаць мінулае і сучаснасць.

Быў час — на музей мясцовыя людзі пазіралі як на свайго асабістага ворага. І мясцовыя людзі, і мясцовыя ўлады... Праблем сёння — і сур'ёзных, і дробязных — паменела. Мяняецца псіхалогія мясцовых жыхароў. Мяняецца псіхалогія ўлады. Сярод арганізатараў фэсту значыцца Пухавіцкі райвыканкам. На многія мерапрыемствы ў «Дудуткі» прыязджаюць пухавіцкія фальклорна-этнаграфічныя калектывы. Магчыма, з часам паразуменне прывядзе і «Дудуткі», і Пухавіцкі райвыканкам да ажыццяўлення і выразных сумесных праектаў. І сляды сядзіб, былога ўзлёту духоўнасці, прыкметныя, заўважныя не толькі ў Дудзічах, не толькі ў ваколіцах калісьці славутага мястэчка, але і ў Блоні, Дукоры, Шацку... Вось толькі патрэбны Будзінасы, каб заўважыць гэтыя сляды. А мо гісторыя падорыць нам і такі варыянт свайго развіцця, калі адзін Будзінас возьме гэта пад сваю апеку?..

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

## Міхаіл МЯСНІКОВІЧ:

# «ДЫЯЛОГ БЕЛАРУСІ З ЗАХАДАМ БУДЗЕ РАЗВІВАЦЦА ПАСЛЯДОЎНА І МЭТАНАКІРАВАНА»

**З кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаілам Мясніковічам гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»**

**— Міхаіл Уладзіміравіч! Назіральнікі па-рознаму ацэньваюць вынікі паездкі Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі на Сусветны эканамічны форум у Кран-Мантана (Швейцарыя). Якая ваша думка, паездка ўдалася?**

— Лічу, што ўдалася. Прынамсі, яе галоўныя мэты Прэзідэнт рэалізаваў: ён прыняты ў Еўропе; адбыўся дыялог па геапалітычных праблемах; даведзена да міжнароднай супольнасці пазіцыя нашай рэспублікі.

Удзел беларускага кіраўніка ў форуме з самага пачатку разглядаўся як магчымасць з міжнароднай трыбуны растлумачыць сутнасць праводзімага краінай палітычнага і эканамічнага курсу, спакойна, без эмоцый выказаць свае меркаванні наконт праблем у адносінах Беларусі з Захадам. Аднак, на жаль, без эмоцый на форуме не абышлося.

Тры-чатыры ўдзельнікі з самага пачатку спрабавалі абвінаваціць прэзідэнта ў нежаданні праводзіць у рэспубліцы дэмакратычныя пераўтварэнні. Гэтыя людзі выказвалі завучаныя фразы, знаёмыя многім жыхарам рэспублікі па публікацыях у апазіцыйнай і ультраправай прэсе. Стала зусім відавочным, што абвінавачанні і абсалютнае нежаданне выслухаць аргументы прэзідэнта Беларусі — галоўная мэта старшынствуючага на гэтым пасяджэнні форуму вядучага французскага тэлебачання Маларда і яго палітычных заказчыкаў.

Але прэзідэнт вытрымаў удар. Прамоўцам не ўдалося вывесці з раўнавагі кіраўніка дзяржавы. Ён змог аргументавана растлумачыць сутнасць шэрагу найбольш актуальных праблем у адносінах паміж Беларуссю і Захадам. У прыватнасці, размова ішла аб «двайных стандартах» у падыходах шэрагу еўрапейскіх структур пры ацэнцы палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Прэзідэнт жорстка і абгрунтавана абвінаваціў Еўрасаюз, які ўвёў мноства абмежаванняў на гандаль калійнымі ўгнаеннямі, хімічнымі валокнамі і іншымі таварамі, якія з'яўляюцца важнейшымі артыкуламі беларускага экспарту. Настойваючы на поўнай лібералізацыі знешняга гандлю рэспублікі, Еўрапейскі саюз не спяшаецца адмяніць квоты на ўвоз у Еўропу тавараў беларускай вытворчасці. Аляксандр Рыгоравіч зусім справядліва паставіў пытанне: ці можна называць свабодным рынак, калі ў дадзенай сітуацыі інтарэсы Беларусі відавочна ўшчамляюцца? Хіба можа ў гэтай сітуацыі ісці размова аб раўнапраўным партнёрстве?

Па атмасферы ў зале пасяджэння было відаць, што большасці з прысутных гэтая праблема была зразумелая, і многія ўдзельнікі прызнаюць неабходнасць змянення сітуацыі. Аднак з-за хамскіх паводзінаў старшынствуючага не адбылося канструктыўнага абмеркавання канкрэтных набалелых пытанняў. Танальнасць заказаных выступленняў сведчыла аб адкрытым нежаданні абмяркоўваць штонебудзь па сутнасці, зводзілася да надуманых агульных пытанняў ці бытавых праблем тыпу так званага высялення паслоў еўрапейскіх краін са сваіх загарадных дач у «Драздах».

Несумненным дасягненнем паездкі у Кран-Мантана лічу зрыў спробы наладзіць абструкцыю нашаму прэзідэнту. Безумоўна, у гэтай справе заслуга належыць выключна самому Аляксандру Рыгоравічу, які назваў факты і поспехі, якіх няма ў многіх краін з пераходнай эканомікай: эканамічны рост, сацыяльна-палітычная стабільнасць, сацыяльная абарона грамадзян. І гэта выклікала непадробную цікавасць ва ўдзельнікаў форуму. Звыш 500 чалавек усіх рас і нацыянальнасцяў пачулі праўду пра Беларусь. Дарэчы, тройчы аўдыторыя апладысментамі дзякавала Аляксандру Рыгоравічу. Зусім відавочна, што гэтыя трычатыры правакатары не прадстаўляюць думку ўсёй Еўропы. Яны разлічвалі на тое, што прэзідэнт расстроіцца, выйдзе з сябе і «грукне дзвярыма». Натуральна, у заходняй і нашай апазіцыйнай прэсе гэта падалі б як «поўны правал візіту», «непрыманне Еўропай Лукашэнкі» і гэтак далей. Не атрымалася! Кіраўнік дзяржавы адразу зарыентаваўся, чаго дабіваюцца гэтыя людзі, і дастойна выйшаў з сітуацыі.

Паездку можна назваць удалай яшчэ і таму, што, нягледзячы на ўзняты на Захадзе шум вакол пасольскіх дач, які падносяць як палітычны крызіс, прэзідэнт прыехаў у Швейцарыю на міжнародны форум, пацвярджаючы тым самым сваю гатоўнасць не на словах, а на справе супрацоўнічаць з Захадам. Пасля паездкі ўжо ніхто не зможа папракнуць А. Лукашэнку ў нежаданні кантактаваць з Еўрапейскім саюзам. Беларускі кіраўнік сваім учынкам даказаў, што яго краіна сапраўды праводзіць шматвектарную знешнюю палітыку, а не замыкаецца толькі на ўсходнім напрамку. Хоць А. Лукашэнка і на форуме, і ў інтэрв'ю вядучай тэлекампаніі «Еўраньюс» падкрэсліў, што з Расіяй у нас агульныя карані, эканамічныя інтарэсы, і Саюз з Расійскай Федэрацыяй — гэта прыярытэт дзяржаўнай палітыкі Беларусі.

Станоўчым вынікам паездкі можна назваць і тое, што выступленне Аляксандра Рыгоравіча прымусіць задумацца многіх заходніх аналітыкаў аб перспектывах супрацоўніцтва з рэспублікамі былога СССР у цэлым. Бо праблемы ўзаемаадносінаў Беларусі з Захадам па сутнасці не адрозніваюцца ад праблем, якія склаліся ў адносінах Захаду з іншымі постсавецкімі рэспублікамі. У дадзеным выпадку А. Лукашэнка з'явіўся першым з кіраўнікоў, які адкрыта і прама заклікаў Захад перагледзець свае адносіны да рэспублік былога СССР. Выступленне беларускага лідэра павінна стаць сігналам Захаду аб неабходнасці карэкціроўкі сваёй усходняй знешняй палітыкі. Бо рана ці позна дакладна такія ж праблемы паставяць перад Захадам і лідэры іншых краін. У якой форме гэта будзе зроблена і да якіх наступстваў гэта прывядзе — вось пытанні, якія трэба будзе асэнсаваць заходнім аналітыкам пасля выступлення прэзідэнта Беларусі ў Кран-Мантана.

**— Пасля прыбыцця са Швейцарыі прэзідэнт даў крайне негатыўную ацэнку падрыхтоўкі візіту. З чым гэта звязана?**

— Сапраўды, кіраўнік дзяржавы назваў падрыхтоўку паездкі нездавальняючай. Адміністрацыя Прэзідэнта вінавата перад Аляксандрам Рыгоравічам у тым, што недастаткова глыбока прааналізавала магчымае развіццё падзей. Былі і пратакольныя праколы. Шчыра кажучы, мы не думалі, што форум, які мае прэтэнзіі на значнае месца ў Еўропе, стане прыцягваць у якасці вядучых прафесійных нягоднікаў і крывадушнікаў, якія гавораць адно, а робяць другое. Думаю, што форум у Кран-Мантана яшчэ не дарос да таго ўзроўню, каб запрашаць такіх магутных лідэраў, як А. Лукашэнка. І гэта не толькі мая думка. У прыватнасці, так лічыць вядомы палітык і эканаміст С. Глазьеў, які пабываў на форуме.

Аляксандр Рыгоравіч з самага пачатку не меў ілюзій адносна «спакою» ў гэтай паездцы. Рашаючыся на візіт у гэты складаны па віне Захаду ў адносінах Беларусі з Еўрасаюзам перыяд, прэзідэнт добра разумеў, што некаторыя «добразычліўцы» паспрабуюць наладзіць якую-небудзь правакацыю. Але мы не думалі, што еўрапейская публіка пойдзе на гэтую правакацыю, так брудна і старанна прадуманую.

Тут віна адміністрацыі і іншых беларускіх дзяржаўных структур, якія займаліся падрыхтоўкай паездкі. Нам не ўдалося прадбачыць маштабнасць рыхтуемай правакацыі, і прэзідэнт не быў своечасова аб гэтым інфармаваны. У выніку ён аказаўся ў зале міжнароднага эканамічнага форуму сам-насам з адразу некалькімі заўзятымі палітычнымі апанентамі, якія па дакладна распрацаванаму хітраму сцэнарыю пры вялікай колькасці прадстаўнікоў прэсы спрабавалі правесці такое вось шоу — наладзіць абструкцыю кіраўніку беларускай дзяржавы. Не ўдалося! Старшынствуючы Малард і дэпутат Фрай думалі «задавіць», збіць прэзідэнта з прэзідэнцкага ўзроўню.

Толькі арганізатары пралічыліся. Яны недаацанілі асабістыя якасці Аляксандра Рыгоравіча... Беларускі лідэр ветліва, талкова паставіў іх на месца. Дарэчы, паводле інфармацыі нашага пасла ў Швейцарыі С. Агурцова, арганізатар форуму Ж. Картэрон рыхтуе Аляксандру Рыгоравічу пісьмо з прабачэннямі. Ж. Картэрон адмовіўся ў далейшым ад паслуг Маларда. Іншыя ўдзельнікі акцыі таксама просяць прабачэння. Бог ім суддзя. Можна толькі адно сказаць: тое, з чым носяцца на Захадзе — так званымі чалавечымі каштоўнасцямі, — мы пераканаліся, прадаецца і купляецца.

**— А калі б прэзідэнт своечасова атрымаў інфармацыю аб рыхтуемай акцыі, як вы лічыце, ці паехаў бы ён у Швейцарыю?**

— Так, я думаю, паехаў бы. Дарэчы, гэта ён пацвердзіў у інтэрв'ю журналістам пасля прыбыцця ў Мінск. Толькі ў гэтым выпадку беларускі лідэр быў бы добра падрыхтаваны маральна.

**— Якім бачыцца вам далейшае развіццё дыялога з Захадам пасля форуму ў Кран-Мантана?**

— Паслядоўным і мэтанакіраваным. Мы ўсе павінны сабе дакладна ўяўляць, што Еўропа — наш агульны дом. Нежаданне разумець адзін аднаго, спробы атрымаць якія-небудзь дывідэнды ў аднабаковым парадку ніколі, у рэшце рэшт, не прыносілі станоўчых вынікаў.

Думаецца, сур'ёзна будуць прааналізаваны прапановы А. Лукашэнкі па ўмацаванню еўрапейскай бяспекі. Шкада, што гэтая тэма, якая была заяўлена для выступлення прэзідэнту Беларусі, не атрымала развіцця на форуме. Не буду дэталізаваць, скажу толькі адно: горка бачыць, калі палітычная, брудная, шчодрааплатная кан'юнктура спрабуе засланіць праблемы, якія маюць важнейшае планетарнае значэнне і датычаць лёсаў мільёнаў людзей.

Прэзідэнт заявіў на форуме аб сваёй гатоўнасці да дыялога з Захадам па ўсіх праблемах. Перакананы, што гэты дыялог будзе развівацца, і мы рана ці позна прыйдзем да поўнага ўзаемаразумення.

## МЕСЯЦ

**Першая квадра 1 ліпеня**

***З 11.06 — 7-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Дзевы.***

## ІМЯНІНЫ

**Пр. Мануіла, Савела, Ісмаіла**

**К. Эміліі, Люцыны**

СЁННЯ

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі, пераважна па паўночнаму захаду, пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне, Магілёве, Віцебску — 18—20, Брэсце, Гомелі, Мінску — 20—22 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 1 ліпеня — на большай частцы тэрыторыі, 2-га — па поўдню Беларусі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 9—14, удзень — 17—22 градусы вышэй нуля.

# ХАРЧОВАЯ ПРАМЫСЛО
# ПЕРЫЯД СПАДУ І ЗАРАЗ ВЫХ
# ЎЗРОВЕНЬ ВЫТВОРЧ

***Гэтаму ў многім садзейнічае пастаянная ўвага палітычнага кіраўніцтв Прэзідэнт Беларусі неаднаразова наведваў розныя прадпрыемствы Як выконваецца пастаўленая кіраўніком дзяржавы задача, у пры насычэнню рынку краіны таварамі, выробленымі з мясцовай сыра ў цэлым па краіне і на асобна ўзятым Пухавіцкім харчовым камбі***


Пекар Анжэла ЦАЦУКЕВІЧ і майстар Святлана СЕМАШЧУК.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ДАВЕДКА

***Арцель «Аб'яднаная праца» ўзнікла ў 1926 годзе на правым беразе ракі Цітаўка ў г. Мар'іна Горка.***

***Усе вытворчыя памяшканні былі драўляныя, маленькія, цесныя, а прадукцыя выраблялася ўручную. Рабочыя арцелі выпякалі хлебабулачныя вырабы і пячэнне, выраблялі віно і безалкагольныя напіткі, выпрацоўвалі крухмал і варылі патаку, выпускалі сухі кісель і каўбасныя вырабы.***

***У час Вялікай Айчыннай вайны ўсе цэхі былі спалены і разбураны. Пасля вызвалення Беларусі прадпрыемства прыйшлося аднаўляць.***

***У пачатку 1946 года ўжо працавалі патачны і крухмальны цэхі, а за тым і хлебапякарны.***

***У 1947 годзе пачалі выпускаць віно і безалкагольныя напіткі, перапрацоўвалі садавіну і агародніну.***

***У 1956 годзе пераіменавалі ў Пухавіцкі райхарчкамбінат; у 1966 г. — у Пухавіцкі вінзавод: у 1986 г. пераўтвораны ў Пухавіцкі харчовы камбінат.***

***Цяпер на камбінаце ўсе вытворчыя цэхі цагляныя, прасторныя, светлыя.***

***Тэрыторыя камбіната ўся заасфальтаваная, пабудаваны цагляныя складскія памяшканні і гаражы.***

***За два апошнія гады тут значна павялічыўся аб'ём вытворчасці — амаль на 250 працэнтаў. Адлічэнні камбіната ў бюджэт раёна летась склалі амаль 19 працэнтаў, а сёлета — 22 працэнты.***

***Таварная прадукцыя ў супастаўных цэнах з пачатку года склала 172 працэнты, а ў дзеючых цэнах — 247 працэнтаў.***

***Прадукцыйнасць працы — 151 працэнт.***

***Прыбытак за першы квартал г. г. склаў 5,5 млрд. руб., ці 280 працэнтаў.***

***За мінулы год рэнтабельнасць вытворчасці дасягнула 56 працэнтаў.***

# «МЫ — ШМАТГАЛІНОВАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА І ПАВІННЫ ВЫРАБЛЯЦЬ РАЗНАСТАЙНУЮ ПРАДУКЦЫЮ» —

***Ілья ТРАЦЦЯКОЎ, дырэктар Пухавіцкага харчовага камбіната***

Чым толькі не займаўся камбінат за сваю больш чым 50-гадовую гісторыю. Выпускаў розныя напоі (безалкагольныя і алкагольныя), цукеркі, мачыў яблыкі, саліў агуркі, марынаваў грыбы, квасіў капусту, выпякаў хлеб і рабіў многае іншае. Але галоўным прадуктам многія гады было пладова-ягаднае віно.

Моцны ўдар па прадпрыемству нанесла сумна вядомая гарбачоўская барацьба супраць п'янства і алкагалізму. Рэзка скарацілася вытворасць віна. Ад былых аб'ёмаў засталося прыкладна пяць-восем працэнтаў. Сам завод па выніках гэтай жорсткай і ў многім бяздумнай барацьбы значна пацярпеў. Асаблівы ўрон быў нанесены матэрыяльнай базе завода. Значную частку абсталявання распрадалі, раздалі сельскім гаспадаркам, расцягнулі.

Маё назначэнне сюды дырэктарам супала з пачаткам яго аднаўлення. Завод пераіменавалі ў харчовы камбінат. І гэта правільна. Характар нашай вытворчасці, яго плошчы дазваляюць выпускаць шырокую гаму прадуктаў харчавання. Калі ён камбінат, дык і павінен апраўдваць сваю назву. Бо на той час вытворчасць натуральных він і напояў з беларускіх ягад і пладоў была знішчана на корані.

Калі я прыйшоў на камбінат, там заставалася ў больш-менш нармальным стане ўсяго адна лінія разліву віна ды працаваў хлебны цэх. Выпякалі хлеб на абсталяванні, якое даўно фізічна і маральна ўстарэла. Таму хлебны цэх прыносіў вялікія страты. Напрыклад, у той год ён прынёс прадпрыемству каля паўтара мільярда рублёў стратаў.

У свой час цэх выпускаў да 15—20 тон хлебабулачных вырабаў у суткі. Але з ростам цэн попыт насельніцтва на хлеб значна скараціўся, што ў сваю чаргу паўплывала на аб'ёмы яго выпечкі.

Таму прыйшлося сур'ёзна займацца рэканструкцыяй цэха, паставіць там міні-печы.

Характэрная асаблівасць камбіната — вялікія свабодныя вытворчыя плошчы. Параўнальна нядаўна іх было дзве з паловай тысячы квадратных метраў. Цяпер засталося незанятых паўтары тысячы метраў. Скарачэнне адбылося за кошт укаранення новых відаў вытворчасці. Мы пачалі вырошчваць грыбы-вешанкі. Адкрылі крухмальны цэх у кааперацыі з аграфірмай «Васількі». Мяркуем астатнія свабодныя плошчы паступова заняць вытворчасцю выгаднай для нас і патрэбнай насельніцтву харчовай прадукцыі.



Асаблівыя планы і надзеі мы звязваем з адраджэннем народных традыцый айчыннага вінаробства. Сёння ў крамах і супермаркетах нашай краіны, на жаль, вы не знойдзеце недарагога і натуральнага віна з беларускіх ягад і пладоў. Затое іх паліцы застаўлены іншаземнай віннай прадукцыяй, ад цэн на якую ў людзей, што жывуць на сярэднюю зарплату, у вачах цямнее. Не сакрэт, што для пераважнай большасці беларускіх сем'яў сухое ці дэсертнае віно стала недасягальнай раскошай. Таму мы ставім перад сабой задачу ліквідаваць падобную недарэчнасць і з часам пастаўляць на рынак краіны духмяныя, смачныя натуральныя віны.

З гэтай мэтай мы пачалі і ўжо заканчваем рэканструкцыю магутнасцяў па выпуску віна. Пераабсталявалі і аднавілі дзейнасць перапрацоўчага цэха. Яго магутнасць цяпер значна ўзрасла — да 5-6 тысяч тон. Таксама мы набылі новыя прэсы, драбілкі, іншыя тэхнічныя прыстасаванні. Зразумела, у гэтую рэканструкцыю намі ўкладзены вялікія сродкі.

Мы выпускаем натуральныя віны з пладоў і ягад. Адпаведная рэцэптура ў нас ёсць. Дастаткова назваць лікёрнае віно «Мар'ін Узгорак», віно «Беларуская восень», «Белая вежа».

Тут я хачу падкрэсліць, што гэтыя натуральныя віны прынцыпова адрозніваюцца ад тых пладова-ягадных він, што выпускаюцца сёння ў рэспубліцы. Іх рэцэпт даволі просты: у пэўных прапорцыях спірт разбаўляецца вадой, у гэту сумесь дабаўляюцца араматызатары — і напой гатовы да ўжывання. Так, ён карыстаецца попытам і папулярнасцю ў пэўнай часткі насельніцтва. Але мне, як вытворцу, хочацца, каб нашу прадукцыю паважалі і цанілі ў першую чаргу за яе смакавыя якасці, а ўжо потым за градусы.

Цяпер мы пачалі актыўны працэс нарыхтоўкі пладоў і ягад пад будучую вінную прадукцыю. І займацца гэтым будзем усё лета. Занятак гэты, шчыра скажу, даволі працаёмкі і патрабуе шмат грошай для разлікаў з пастаўшчыкамі сыравіны. Прыкладна 15—20 мільярдаў рублёў. Нам самім знайсці гэтую велізарную суму вельмі складана. Калі раней на мэты нарыхтоўкі сыравіны можна было ўзяць ільготны ці беспрацэнтны крэдыт, то цяпер усё інакш. Мы, на вялікі жаль, зараз пазбаўлены гэтай магчымасці, што моцна замінае ў нашай рабоце. Таму мне здаецца мэтазгодным стварэнне ў (ці пры) «Белхарчпрамгандлі» асобнага рахунку, фонду, а можа нават і ўласнага банка. Каб там пры неабходнасці (у час нарыхтовак сыравіны, пры куплі імпартнага абсталявання па перапрацоўцы сельгаспрадукцыі і г. д.) нашы прадпрыемствы маглі ўзяць ільготны крэдыт. Зразумела, папярэдне кожны камбінат ці кожны завод павінны ўнесці адпаведныя ўзносы. Бо сёння ў «Аграпрамбанка» няма дастатковых фінансавых рэсурсаў, каб забяспечыць крэдытамі ўсіх жадаючых.

Нядаўна наша прадпрыемства сутыкнулася з фінансавай праблемай. Мы ўзялі каньячны спірт у Азербайджане, каб на яго аснове выпрацаваць розныя каньячныя напоі. Нам трэба было заплаціць 8 млрд. рублёў. Адразу дастаць гэтыя грошы не ўдалося. Пакуль іх шукалі, накруцілася вялікая пеня, нам выставілі штрафныя санкцыі. Прызнаюся, зведалі мы ліха з тым каньячным спіртам. А быў бы ў нашага канцэрна свой банк, думаю, гэтых непрыемнасцяў удалося б пазбегнуць.

Упэўнены, падобных прыкладаў мае калегі — кіраўнікі харчовых прадпрыемстваў могуць прывесці не адзін дзесятак.

Што датычыць вінаробства, то мы маем цвёрды намер развіваць яго на базе нашага камбіната. Неабходная інфраструктура, кадры, абсталяванне, наяўнасць чыгункі і блізкасць сталіцы — тыя складаныя, якія дазваляюць нам разлічваць на поспех. І не толькі нам. Думаю, стварэнне ў Мар'інай Горцы Нацыянальнага цэнтра беларускага вінаробства — справа рэальная.

Упэўнены, беларускія пладова-ягадныя віны могуць з часам стаць экспартным таварам. Мае гутаркі з французамі, італьянцамі, якія прыязджалі на камбінат з мэтай вывучэння ўмоў па стварэнню сумеснага прадпрыемства, паказалі, што ёсць шанцы прадаваць на Захадзе нашы напоі. Напрыклад, віно з рабіны, суніц, іншых ягад, на якія багатыя лясы Беларусі. Але, каб нашы віны ўспрынялі за мяжой, патрэбны рэцэпты, тэхналогія, прыгожае сучаснае афармленне бутэлькі.

Сёе-тое мы робім у гэтым напрамку. Адмовіліся ад выкарыстання піўных бутэлек і перайшлі на каньячныя, працуем над паляпшэннем якасці віна, сур'ёзна займаемся рэкламай і ўдасканаленнем знешняга выгляду нашай прадукцыі. Зараз ідзе мантаж новай лініі, якую мы набылі ў Германіі. Яна дазволіць нам, не пабаюся гучнага слова, адкрыць новую старонку ў айчынным вінаробстве. На ёй мы таксама плануем распачаць выпуск і сухіх вінаградных він. Сыравіну для іх будзем завозіць з Малдовы, з якой мы наладзілі дзелавыя сувязі.

Плённыя творчыя сувязі склаліся ў нас з навукова-вытворчым аб'яднаннем «Хартэх», яго генеральным дырэктарам Ігарам Піліпенкам, многімі спецыялістамі. Яны распрацоўваюць для нас рэцэптуру він, каньячных напояў. Мы вельмі спадзяёмся, што і ў далейшым сумесная праца з аб'яднаннем дазволіць нам дасягнуць пастаўленых мэтаў.

Арганізацыя вытворчасці якасных натуральных він — гэта толькі частка нашых планаў. Як я гаварыў вышэй, у нас «гуляюць» паўтары тысячы квадратных метраў плошчаў. Не выключаю, што на іх з часам мы зоймемся перапрацоўкай мяса, выпускам малочных прадуктаў. Мы — харчовы камбінат. На мой погляд, нам не варта засяроджвацца выключна на перапрацоўцы садавіны і агародніны, а трэба смялей брацца за вытворчасць іншых відаў харчавання, на якія ў насельніцтва ёсць попыт.

Нядаўна ў наша веданне перайшло даволі вялікае возера Міхайлаўскае — 78 гектараў. Там адкрыем лодачную станцыю, арганізуем спартыўную лоўлю рыбы, абсталюем пляж, каб жыхары Мар'інай Горкі і Пухавіцкага раёна летам маглі адпачываць на берагах возера. У глыбокай перспектыве, магчыма, зоймемся перапрацоўкай рыбы.

Нам прапаноўваюць узяць у веданне комплекс «Чырвонагвардзейскі» па вырошчванню буйной рагатай жывёлы на 12 тысяч галоў. Комплекс зараз перажывае, мякка кажучы, не самыя лепшыя часы. А яшчэ параўнальна нядаўна гэта было квітнеючае прадпрыемства, якое працавала па італьянскай тэхналогіі. Прывагі тут складалі звыш кілаграма ў суткі. Мы паспрабуем адрадзіць былую славу «Чырвонагвардзейскага». Укладзём у яго аднаўленне значныя сродкі — 2-3 мільярды рублёў.

Калі комплекс канчаткова пяройдзе да нас, то сам Бог наказаў нам адкрыць на камбінаце забойны цэх, наладзіць перапрацоўку мяса. Гэта дазволіць нам без пасрэднікаў, а значыць і без дадатковых гандлёвых накрутак, па прымальнай цане прадаваць насельніцтву мясныя прадукты.

Рэалізоўваць іх будзем і праз свае фірменныя магазіны. Яны — пэўны крок у набліжэнні нашай прадукцыі да пакупнікоў. Зараз мы маем тры свае магазіны, таксама арганізоўваем выязны гандаль з машын непасрэдна на мясцовым рынку.

Мушу заўважыць, што паступовае ўвядзенне ў справу свабодных плошчаў — не самамэта. Галоўнае, каб не пралічыцца, а наладзіць вытворчасць менавіта тых прадуктаў, якія патрэбны раёну, вобласці, рэспубліцы і могуць прадавацца за яе межамі. Нам, кіраўнікам падобных камбінатаў, не заўсёды проста на месцы зарыентавацца ў гэтым. Тут, лічу, сваё важкае слова павінен сказаць канцэрн «Белдзяржхарчпрам». За ім глыбокі маркетынг рынку. Яго спецыялісты валодаюць сітуацыяй у маштабах краіны, ім з вышыні больш і далей відаць, якую прадукцыю лепш выпускаць таму ці іншаму прадпрыемству. Канцэрн можа і павінен унесці свой уклад у арганізацыю дакладных, сапраўды партнёрскіх адносінаў паміж прадпрыемствамі нашай галіны, бо, калі гаварыць шчыра, ведамасныя непаразуменні часам шкодзяць справе.

І ўвогуле маё глыбокае перакананне: улічваючы, што вытворчасці прадуктаў харчавання ў нашай краіне надаецца выключнае значэнне, канцэрн «Белдзяржхарчпрам» неабходна рэфарміраваць у адпаведнае міністэрства. Гэта спрыяла б лепшаму кіраванню галіной і значыць, больш хуткаму напаўненню беларускага рынку якаснымі, недарагімі прадуктамі, якія б па сваіх вартасцях і смакавых якасцях пераўзыходзілі замежныя аналагі.


Будучыня прадпрыемства — за моладдзю. На здымку: Вольга ЧЫБІСАВА, Наталля РУБЛЕЎСКАЯ, Галіна СУДАКОВА, Святлана ШКОДА, Сяргей АНІШЧАНКА, Наталля ГУРЫНА, Аляксандр ПЕТРАКОЎ.


Кантралёр Алена Нікіценка сочыць за разліва

Матэрыялы падрыхтавалі Леанід ТУГАРЫН




# ЭКАЛОГІЯ - ЧАЛАВЕК

СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*30 чэрвеня 1998 года* **№ 2 (14)**


***АКТУАЛЬНА***

## ЕЎРОПА ЗМАГАЕЦЦА ЗА ЗДАРОЎЕ СВАЁЙ ПРЫРОДЫ

### *Аб праблемах і задачах, вынесеных на IV пан'еўрапейскую канферэнцыю міністраў навакольнага асяроддзя*

— Чаму месцам правядзення агульнаеўрапейскай канферэнцыі была абрана менавіта Данія? Гэтая краіна — праваднік сур'ёзных экалагічных ідэй, мае ўстойлівую «прыродаахоўную рэпутацыю».

Пачатак форуму — гэта, зразумела, асэнсаванне высноў справаздачы «Добржыш: тры гады пасля», ацэнка намаганняў еўрапейскіх дзяржаў па вырашэнню экалагічных праблем, эфектыўнасці інвестыцый у гэту справу — палепшыўся стан навакольнага асяроддзя на кантыненце ў цэлым ці не вельмі?

Вось яшчэ важны дакумент — справаздача Еўрапейскага агенцтва «Стан навакольнага асяроддзя ў Еўропе: другая ацэнка». Якія тут асноўныя вывады?

Першы ў тым, што, нягледзячы на пэўныя негатыўныя тэндэнцыі, прагрэс у барацьбе з забруджваннем навакольнага асяроддзя ў Еўропе ўсё ж даволі значны.

У той жа час, хоць і былі прыняты маштабныя меры, экалагічная абстаноўка ў большасці так званых «складаных» рэгіёнаў засталася нездавальняючай.

Трэцяя выснова наступная: па ўсёй Еўропе павялічылася шкоднае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе ўсіх відаў транспарту, а ўздзеянне энергетыкі і сельскай гаспадаркі захавалася ў ранейшых прапорцыях. Гэтыя тры фактары ўздзеяння на прыроду і чалавека лічацца сёння ў Еўропе самымі моцнымі.

Знайшло сваё месца і меркаванне аб тым, што найбольш моцны негатыўны ўплыў на навакольнае асяроддзе аказваюць менавіта развітыя краіны Захаду.

**Незалежная і вельмі ўплывовая арганізацыя — Еўрапейскае агенцтва па праблемах навакольнага асяроддзя сваю першую справаздачу аб пан'еўрапейскім стане спраў у гэтай галіне зрабіла тры гады таму ў час першай канферэнцыі ў чэшскім горадзе Добржышы. Яна так і называлася: «Стан навакольнага асяроддзя: ацэнка Добржыш». Гэты вычарпальны дакумент ахопліваў інфармацыю па 46 краінах.**

**Названая справаздача была прадстаўлена трэцяй канферэнцыі міністраў навакольнага асяроддзя ўсіх еўрапейскіх дзяржаў, якая адбылася ў Сафіі ў кастрычніку 1995 года. Тады быў прыняты агульнаеўрапейскі план дзеянняў па захаванню навакольнага асяроддзя, вызначаны асноўныя напрамкі і задачы. Было вырашана таксама 23—25 чэрвеня сёлетняга года правесці чацвёртую агульнаеўрапейскую канферэнцыю міністраў — на гэты раз у Даніі, у горадзе Орхусе.**

**Напярэдадні падзеі рэдакцыя газеты звярнулася да першага намесніка міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі Ігара ВОЙТАВА з просьбай больш падрабязна асвятліць кола рабочых праблем еўрапейскага экалагічнага форуму. Вось што ён расказаў:**



У ацэнках і высновах даклада, калі можна так сказаць, «пасля Добржыша» наша Беларусь выглядае вельмі няблага. Менавіта таму, што пры ўсіх праблемах стан прыроднага асяроддзя ў нашай краіне ў цэлым палепшыўся. Тут ніяк нельга скідваць з рахунку тое, што ў 1996 годзе ў нас была прынята Нацыянальная праграма рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, якая выконваецца ў цэлым добра.

У ЧЫМ АСАБЛІВАСЦЬ канферэнцыі ў Орхусе? У тым, што да гэтага на працягу двух гадоў вялася падрыхтоўка праекта канвенцыі па забеспячэнню доступу да экалагічнай інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў прыняцці рашэнняў у галіне аховы навакольнага асяроддзя. У Швейцарыі, Італіі, іншых краінах было праведзена дзесяць пасяджэнняў рабочых груп, у пяці з іх прымалі ўдзел і прадстаўнікі Беларусі.

Праект канвенцыі ўтрымлівае тры асноўныя пазіцыі. Як забяспечыць доступ грамадскасці да інфармацыі? Прадугледжваецца, што кожны грамадзянін любой краіны Еўропы мае права ведаць тое, што яго цікавіць. У кожнай краіне павінен быць створаны механізм, які забяспечвае такое права канкрэтнага чалавека — і дзяржава прымае на сябе такое абавязацельства.

Якім бачыцца ўдзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, што датычаць стану навакольнага асяроддзя, — ці то, скажам, новага будаўніцтва, ці то развіцця рэгіёна, у якім пражываюць канкрэтныя людзі, і інш.? Пытанне няпростае. У нас у Беларусі, у прыватнасці, дзейнічае Закон «Аб экалагічнай экспертызе», дзе запісана, што пры экспертызе праектаў павінна ўлічвацца думка грамадскасці. Што і робіцца ў дачыненні да значных аб'ектаў, калі дакументацыя ўзгадняецца з той жа грамадскасцю, у тым ліку і навуковай. У гэтых адносінах у Беларусі пэўныя зрухі ёсць— тут мы ўвогуле ад агульнаеўрапейскіх патрабаванняў не адстаём.

Вельмі цікавы «момант» — доступ грамадскасці ў экалагічных пытаннях да правасуддзя. Сутнасць у тым, што кожны грамадзянін, калі, як ён лічыць, на яго ўздзейнічаюць неспрыяльнае навакольнае асяроддзе, шкодныя выкіды прадпрыемстваў, мае права звяртацца ў суд. І суд абавязаны прыняць такі зварот, разгледзець, наколькі рэальнае такое ўздзеянне, якія меры па яго прадухіленню прымаюцца кантралюючымі органамі, і іншыя абставіны, а потым прыняць сваё рашэнне.

Такі механізм у нас пакуль не адпрацаваны. Але ў нашай Канстытуцыі падобны падыход у прынцыпе закладзены, бо ў ёй запісана, што кожны грамадзянін мае права на кампенсаванне ўрону ад забруджвання навакольнага асяроддзя. Такім чынам, пэўная прававая база для вырашэння канкрэтных калізій у нас маецца, хоць, зразумела, такая пастаноўка пытання для ўсіх нас новая, і рэгуляваць гэтую сферу трэба будзе спецыяльным законам, які неабходна падрыхтаваць.

Кожная краіна спачатку разглядае праект канвенцыі ў сябе «ўнутры». У нас у Беларусі ён таксама знаходзіцца на ўзгадненні ў міністэрствах і ведамствах — асаблівых пярэчанняў тут няма, як няма і супярэчнасцяў паміж праектам канвенцыі і нашым нацыянальным заканадаўствам. Фармальна, калі ўсе неабходныя працэдуры будуць выкананы, Беларусь да гэтай канвенцыі далучыцца.

ЯКІЯ ПАЗІЦЫІ ў святле новых экалагічных падыходаў у Еўропе выйгрышныя для Беларусі?

Упаміналася ўжо, што ў нашай краіне дасягнуты немалы прагрэс у рэалізацыі нацыянальнай праграмы па пытаннях навакольнага асяроддзя. А яна, трэба заўважыць, з'яўляецца адным з напрамкаў Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь. Гэта для нас вельмі выйгрышны фактар, бо ў Еўропе яшчэ не так многа дзяржаў, якія распрацавалі падобныя нацыянальныя дакументы. У гэтым плане сярод краін СНД Беларусь наогул першая.

Тут у многім і ляжыць тлумачэнне таго факта, што ў структурах Еўропы разглядаецца пытанне аб стварэнні ў Беларусі рэгіянальнага еўрапейскага цэнтра па ўстойліваму развіццю. Ва ўсякім разе, пытанне ўжо абмяркоўвалася ў Еўрапейскай эканамічнай камісіі, на пасяджэннях у ААН у Нью-Йорку. Адпаведна, з'явілася і даручэнне нашага ўрада, згодна з якім беларускія міністэрствы і ведамствы рыхтуюць пэўныя распрацоўкі. Пра палітычныя і эканамічныя выгады паспяховай рэалізацыі названай ідэі можна і не гаварыць — яны відавочныя.

Не менш важнае для нас і пытанне агульнаеўрапейскай стратэгіі біялагічнай і ландшафтнай разнастайнасці. Не трэба забываць, што Цэнтральная і асабліва Заходняя Еўропа адчуваюць вельмі моцны антрапагенны прэс на сваё прыроднае асяроддзе, біялагічныя рэсурсы. У нас жа гэта выглядае намнога слабей. Беларусі ўдалося захаваць дзівосныя прыродныя аб'екты і ландшафты, чаго на Захадзе ўжо даўно няма.

У нас распрацаваны Нацыянальны план па захаванню біяразнастайнасці, які з прыхільнасцю ўспрыняты ў свеце. Гэтак жа ўспрымаецца і пастаянная тэндэнцыя да павелічэння колькасці нацыянальных паркаў і запаведнікаў, што само па сабе гаворыць пра наяўнасць у Беларусі моцнай экалагічнай, прыродаахоўнай палітыкі. І гэта, і многае іншае — наш моцны бок.

І яшчэ дэталь, далёка не апошняя. У Орхусе прадстаўляецца даклад — агляд аб стане навакольнага асяроддзя ў Беларусі і рэалізацыі экалагічнай палітыкі, зроблены Арганізацыяй эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця, — вельмі аўтарытэтным міжнародным органам развітых краін свету. І ў ім пра нашу экалогію і прыродаахову пішуць вельмі прыстойна.

Праблема захавання прыроднага асяроддзя на Еўрапейскім кантыненце — самая што ні ёсць глабальная; вельмі шырокая праблематыка і на IV пан'еўрапейскай канферэнцыі ў Даніі. Бо, акрамя ўпамянёных ужо падрыхтаваных да разгляду дакументаў можна было б нагадаць і праект асноўных напрамкаў па энергаэфектыўнасці ў Еўропе, пратаколы, звязаныя з Канвенцыяй па забруджванню паветра на вялікія адлегласці.

Аднак ужо і тое, што паказана больш дэталёва, гаворыць пра адно: еўрапейскі экалагічны форум менавіта для Беларусі — вельмі значнае міжнароднае мерапрыемства, патрэбнае з усіх пунктаў погляду.

**Запісаў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

***ЭКАЛАГІЧНАЯ ПАЛІТЫКА***

## КАМПРАМІСЫ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЦА...

### *Як выконваецца ў Беларусі Нацыянальная праграма выкарыстання прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя?*

**Далёка не кожная еўрапейская краіна мае сёння ўласную нацыянальную стратэгію ўстойлівага развіцця, распрацаваную на ўзроўні дзяржаўнага дакумента. У Беларусі яна маецца. Відаць, з улікам гэтага фактара Еўрапейская эканамічная камісія ААН летась і выбрала нашу краіну месцам правядзення рэгіянальнай канферэнцыі па ўстойліваму развіццю краін з пераходнай эканомікай.**

**Міжнародным прызнаннем правядзення ў нас актыўнай прыродаахоўнай палітыкі з'явілася і выбранне Беларусі на чатырохгадовы тэрмін у састаў Савета кіраўнікоў праграмы ААН па навакольнаму асяроддзю (ЮНЕП).**

**Важную ролю ў прыродаахоўным працэсе адыгрывае Нацыянальная праграма выкарыстання прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Як жа ўвасабляюцца на практыцы закладзеныя ў ёй ідэі і прынцыпы? У пэўнай ступені на гэта пралiваюць святло адказы начальніка ўпраўлення арганізацыйнай работы, эканомікі прыродакарыстання і інфармацыі Мінпрыроды Леаніда ГРЫБКО.**

**— Які ў нас узровень выкарыстання рэсурсаў, аховы прыроды — пра гэта, Леанід Пятровіч, у нашым грамадстве гавораць, як вядома, рознае...**

— Думаю, што ў нашай з вамі размове лепш за ўсё абапірацца на матэрыялы і высновы апошняй па часе рэспубліканскай нарады-семінара, якая адбылася ў мінулым месяцы ў Гомелі.

У адпаведнасці з практыкай работы нашага міністэрства яшчэ ў пачатку года было запланавана правядзенне такой шырокай нарады з удзелам усіх структур Мінпрыроды, прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, урада, вучоных. З абавязковым, дадам, наведваннем аб'ектаў прыродакарыстання і наступным падвядзеннем вынікаў выканання заданняў Нацыянальнай праграмы за апошнія два гады. Галоўная мэта — зыходзячы з канкрэтных фактаў і лічбаў, прыкладаў работы гарадскіх і раённых інспекцый, абласных камітэтаў прыродаахавы, высветліць, што ўдалося зрабіць за гэты час, а што і не.

**— Па наяўнай інфармацыі, высновы ў Гомелі былі зроблены неадназначныя, сягота нават моцна пакаралі.**

— Так, размова была вострая, самакрытычная, без згладжвання вуглоў. Галоўная выснова была такая: большасць пазіцый праграмы выконваецца ўвогуле паспяхова, але па некаторых з іх справы ідуць з адставаннем.

Па ходу размовы абавязкова трэба сказаць вось пра што. За апошні час у краіне прыняты Кодэкс аб нетрах, законы «Аб ахове жывёльнага свету», «Аб ахове атмасфернага паветра», іншыя дакументы. Урадам прынята Палажэнне аб дзяржаўным кантролі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, які ажыццяўляюцца Мінпрыроды. У спалучэнні з папраўкамі, унесенымі ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, цяпер маёцца дастатковая нарматыўна-прававая база, усе паўнамоцтвы, каб эфектыўна ўздзейнічаць на парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства. На жаль, на месцах гэтыя магчымасці выкарыстоўваюцца не заўсёды.

**— Вось тут, Леанід Пятровіч, я цалкам з вамі пагаджуся. Бо самому не адзін раз прыходзілася пісаць пра «вольную практыку» задымлення заводамі беларускага неба.**

— Увогуле на рэспубліканскай нарадзе абмеркаванне ішло па ўсіх блоках і пазіцыях Нацыянальнай праграмы. Але для таго, каб наша размова была больш прадметнай, можна спыніцца і на прапанаванай вамі тэматыцы.

Што паказаў аналіз работы па ахове атмасфернага паветра? З сярэдзіны мінулага года ў рэспубліцы поўнасцю спынена вытворчасць этыліраваных аўтабензінаў, унесена змяненне ў дзяржаўны стандарт па нормах дымнасці адпрацаваных газаў дызельных аўтамабіляў.

Створаны і функцыянуюць камп'ютэрныя банкі даных па аб'ёмах выкідаў брудных рэчываў у атмасферу. Добра вядуць справу па ахове паветра ў Лепельскай, Ваўкавыскай, Камянецкай гаррайінспекцыях. Падобныя прыклады можна было б і прадоўжыць.

Але ж сітуацыя вымагае сказаць і пра іншае. Напрыклад, пра тое, што ў Чашніцкай, Лельчыцкай, Клецкай, некаторых іншых інспекцыях гэта справа пастаўлена непрафесійна. Ці ўзяць якасць і эфектыўнасць кантролю па ахове атмасфернага паветра, скажам, у Гомелі. Там на гэты прадмет не правяраліся такія буйныя прадпрыемствы, як «Гомсельмаш», аб'яднанне «Гомельдрэў», завод ліцця і нармаляў, вагонарамонтны завод.

У тым жа Гомелі, у АТ «Гомельшкло», была ўведзена ў эксплуатацыю шклаварная печ без належнай па праекту газаачышчальнай устаноўкі. А на Бярозаўскім камбінаце сілікатных вырабаў «замарожана» будаўніцтва электрафільтра па ачыстцы выкідаў печы абпальвання.

Пра што сведчаць прыведзеныя ды і многія іншыя вытворча-экалагічныя калізіі? Сітуацыя абавязвае работнікаў экалагічных службаў усіх узроўняў пільна стаяць на варце інтарэсаў дзяржавы, патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства. Неабходна жорстка спаганяць з парушальнікаў, а не займацца пошукам нейкіх там кампрамісаў.

**— Выкінуць з праекта экалагічную частку — гэта, вядома, па сённяшнім часе ўчынак «смелы». Разлік, відаць, на беспакаранасць. Яўна прасочваюцца рэцыдывы старога мыслення, калі патрабаванняў экалогіі «не разумеюць».**

— У тым і справа, што цяперашні час не пакідае ніякіх падстаў для лагодна-паблажлівых адносінаў да ўзнятых пытанняў. Яны павінны вырашацца па-новаму.

Але ж старыя хваробы, як бачыце, рэч прыліпчывая. Праяўляецца гэта і ў слабых тэмпах будаўніцтва ачышчальных збудаванняў у некаторых рэгіёнах, з-за чаго практычна палова гэтых аб'ектаў у тэрмін не ўведзена. Якая прычына? Ды перш за ўсё няўменне канцэнтраваць сродкі на першачарговых аб'ектах, а калі іншымі словамі — прывычка «распыляць», раскідваць фінансы, скажам так, па кроплі на кожную будоўлю.

Да гэтай негатыўнай з'явы кіраўніцтва Мінпрыроды таксама падышло вельмі прынцыпова, без усякіх кампрамісаў — высновы былі зроблены, пакаранні прыменены. І тут усё і ўсім павінна быць зразумела: вучыць нядбайных трэба і такім спосабам.

Гутарыў
Аляксей ДУБРАВЕНСКІ.

ПРЫРОДААХОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# ЗАСЛОНА ДЫМУ І СМОГУ

## У чэрвені ў Беларусі прайшла масавая акцыя «Чыстае паветра»

**Кожны аўтамабіліст, кіраўнік-гаспадарнік ведаў пра пачатак гэтага мерапрыемства — тут паклапаціліся газеты, тэлебачанне і радыё. Не трэба, аднак, думаць, што пасля заканчэння месячніка, накіраванага на ачышчэнне атмасфернага асяроддзя, уладальнікі транспартных сродкаў зноў могуць «газаваць» звыш усякай меры. Такую думку выказвае начальнік аддзела экалагічнага нагляду ўпраўлення ДАІ г. Мінска маёр міліцыі Генадзь ШЫЛЕЦ:**

— Спецыялісты падлічылі, што на долю аўтатранспарту прыпадае прыкладна 70—75 працэнтаў усіх аб'ёмаў забруджвання атмасфернага паветра. Адсюль і вынікае неабходнасць правядзення масавай акцыі. Практыка паказвае, што калі службы МУС, ДАІ пачынаюць прымяняць меры адміністрацыйнага ўздзеяння да аўтамабілістаў, якія эксплуатуюць няспраўны ў плане «дымнасці» транспарт, і да кіраўнікоў-гаспадарнікаў, якія выпускаюць яго на лінію, то гэта ідзе на карысць, садзейнічае змяншэнню забруджанасці паветра ў горадзе.

Тут дарэчы будзе наступны прыклад. Рыхтавацца да аперацыі мы пачалі яшчэ ў маі. Тады кожная шостая машына з ліку правяраемых мела павышаныя выкіды вокісу вугляроду. Калі ж акцыя набыла масавы характар і ўсе былі праінфармаваныя, а мы выставілі на пастах кантрольна-вымяральныя прыборы, пачалі адсочваць сітуацыю, то ўжо ў сярэдзіне чэрвеня з такімі парушэннямі стала трапляцца толькі кожная дзесятая транспартная адзінка. І тэндэнцыя да зніжэння колькасці парушэнняў у плане «дымнасці» аўтатранспарту працягваецца.

Увогуле ж выяўлена прыкладна 10 тысяч аўтатранспартных адзінак, якія давалі ў сваіх выхлапах павышанае ўтрыманне вокісу вугляроду. Натуральна, што вадзіцелі такіх машын панеслі пакаранне ў адміністрацыйным плане. Напомню яшчэ раз, што эксплуатацыя аўтатранспарту з такімі недахопамі — гэта парушэнне артыкула 82 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях (КаАП), яно караецца накладаннем штрафу на вадзіцеляў да трох мінімальных заработных плат. Усяго было аштрафавана да сямі тысяч вадзіцеляў.

Наша экалагічная служба працуе ў самым цесным кантакце з Гідраметэацэнтрам. У Мінску маецца 8 пунктаў, якія пастаянна адсочваюць сітуацыю па найбольш бруднаму, задымленаму паветру. І калі дзе-нідзе «нацягвае смог», то мы ці накіроўваем туды нашы дзяжурныя брыгады, ці, каб «цяжкае» паветра развеялася, абмяжоўваем прыток туды аўтамабіляў.

Якія праблемы ў час месячніка найбольш сябе праявілі? Што найбольш нас непакоіць? У першую чаргу — розныя малыя прадпрыемствы ды камерцыйныя структуры. Транспарт у іх, вядома, малалікі, затое там у большасці выпадкаў няма належных умоў для яго нармальнай эксплуатацыі, кантролю з боку адміністрацыі. Адным словам, яны ў гэтым плане «нецывілізаваныя».



Якія меры ўздзеяння тут можна прымяніць? Зноў жа палажэнні КаАПа — а менавіта яго артыкул 81, калі выпуск на лінію няспраўнага аўтатранспарту цягне за сабой для службовых асоб штраф да пяці мінімальных зарплат. Праўда, планка штрафу іншы раз і паніжаецца (нашы інспектары могуць увайсці ў становішча такіх карыстальнікаў аўтамабіляў), але так ці інакш кіраўнікі-адміністратары нясуць адказнасць.

Акрамя таго, што мы, як ужо гаварылася, ушчыльную займаемся кантролем за ўтрыманнем вокісу вугляроду ў выхлапных газах і праверкай транспарту на лініі, мы таксама не выпускаем з поля зроку зоны адпачынку мінчан. Напрыклад, такія, як тэрыторыя вакол Мінскага мора. Трэба прама сказаць, што там выяўляецца нямала аматараў улезці на аўтамашыне ў прыбярэжную зону, а то яшчэ і памыць яе азёрнай вадой. А многія мінчане пасля п'юць ваду з водазабора «Дразды», які знаходзіцца непадалёк.

Патрабаванні да стану аўтатранспарту ў час месячніка, вядомая справа, былі больш жорсткія, але каб караць усіх агулам — такой устаноўкі не было. Тым больш, не было спецыяльных указанняў, каб «напаляць страсці». Наадварот, мы заўсёды гутарым з нашым наяўным саставам перад выездам яго на лінію, яшчэ і яшчэ раз тлумачым, як тактоўна і прафесійна выйсці з той ці іншай сітуацыі, якую можа стварыць які-небудзь аўтааматар. Але мы і не заклікаем інспектараў гладзіць парушальнікаў па галоўцы. Інакш можа атрымацца, як у той байцы дзядулі Крылова: кот Васька слухае ды есць.

Гэта гаворыцца да таго, што людзі рэагуюць на ўказанні і пакаранні, якія накладаюць на парушальнікаў міліцыянеры-эколагі, вельмі па-рознаму.

Возьмем прыклад з камерсантам панам Г. (прозвішча поўнасцю пакуль не называю, паколькі справа яшчэ дойдзе да суда). Гэты пан Г. заехаў у двор па дарожцы, дзе вісіць знак 3.2 Правілаў дарожнага руху, што забараняе ўсякі рух транспарту. Мала таго, стаў упоперак варот гаража іншага грамадзяніна і дзве гадзіны не даваў таму выехаць.

Калі на месца здарэння была выклікана брыгада міліцыянераў-эколагаў і нашы супрацоўнікі прад'явілі пану Г. цалкам абгрунтаваныя прэтэнзіі, то апошні даваць тлумачэнні сваіх паводзінаў адмовіўся. Затое пасля пачаў тэлефанаваць ва ўсе інстанцыі — маўляў, інспектары былі нецвярозыя. Знаёмая «метода», ці не праўда?

Калі так, то мы часова гэтую брыгаду з лініі знялі, і ўрачы нашых супрацоўнікаў уважліва абследавалі. Няма чаго і казаць, што ўсе яны былі абсалютна цвярозыя. А гэта ж абвінавачанне было ў пана Г. «галоўным козырам». Калі яму паказалі акты медыцынскага агляду, то ён адразу і «сеў».

Што далей? А далей, хутчэй за ўсё, гэты «выдумшчык» будзе адказваць за паклёп і неабгрунтаваныя абвінавачанні работнікаў міліцыі па суду. Падобныя амбіцыі, зразумела, неабходна належным чынам ацэньваць і спыняць.

Так што прыходзіцца зрабіць выснову: далёка не ўсе грамадзяне адэкватна ўспрымаюць тую навуку, якую ім выкладаюць эколагі ў пагонах. Нават пры відавочных парушэннях з боку таго ці іншага аўтамабіліста.

Інспектар ДАІ, маўляў, «вінаваты» ў тым, што ён спыніў на дарозе парушальніка! Вось апошні іншы раз і імкнецца скампраметаваць нашага супрацоўніка (успомніце «методу» пана Г.), стараецца, каб міліцыянер няякасна склаў дакументы аб парушэнні ці зрабіў нейкую іншую памылку.

Таму трэба сказаць адназначна: улічваючы сённяшні стан маральнасці ў грамадстве, такую акцыю, як «Чыстае паветра», неабходна праводзіць не проста месяц, а можа нават круглы год. Тады будзе і парадак, і чыстая атмасфера.

**Выслухаў і занатаваў Валянцін ЕЛІСЕЕЎ.**

НАБАЛЕЛАЕ

# РЫБАЛОВЫ Ў ПАГОНАХ

## *Некаторыя работнікі міліцыі, прызваныя стаяць на варце правапарадку, самі становяцца браканьерамі*

**Рыбы ў Беларусі ўсё менш і менш. У чым прычына? У тым, што нашы рыбгасы гаспадараць кепска. Не ў апошнюю чаргу, аднак, і ў тым, што расце масавае браканьерства. Калі ж да гэтага «працэсу» далучаюцца і людзі ў міліцэйскай форме, дык чаго тады нам усім чакаць? На гэта ў пэўнай ступені даюць адказ вытрымкі з двух дакументаў, выдадзеных у Мінскім абласным камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

Вось што гаворыцца ў загадзе ад 30 мая гэтага года: «У выніку праведзенага конкурсу на лепшую рэйдавую брыгаду вобласці па барацьбе з браканьерствам першае месца заняла брыгада, якую ўзначальвае начальнік Маладзечанскай райгарінспекцыі Г. А. Янулевіч.

У саставе рэйдавай брыгады прадстаўлены работнікі рыбааховы, міліцыі, егерскай службы паляўнічай гаспадаркі, грамадскія інспектары аховы прыроды...»

Скажам дзякуй усім, хто вызначыўся ў нялёгкай справе аховы нашых агульных рыбных багаццяў ад двухногіх драпежнікаў. У тым ліку — і міліцыянерам, якія дзейнічалі ў саставе маладзечанскай рэйдавай брыгады і іншых падобных калектываў.

Але вось бяда: работнікі міліцыі фігуруюць і ў дакументах зусім іншага роду. Напрыклад, у пісьме, накіраваным камітэтам у пракуратуру Мінскай вобласці: «Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя накіроўвае матэрыялы па факту грубага браканьерства, учыненага 31 мая 1998 года на тэрыторыі Крупскага раёна (возера Радомль).

Просім Вас разабрацца, дапамагчы ўстанавіць месца работы, пасаду парушальніка Захаранкі Дзмітрыя Аляксандравіча і пакараць яго ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам.

Пісьмовы і вусны адказ Першамайскага РАУС г. Мінска не пацвярджае Захаранку Дзмітрыя Аляксандравіча ў сваім штатным спісе».

Сітуацыя ўвогуле знаёмая. Службівага затрымалі за крымінальным заняткам — лавіў рыбу электравудай, што з'яўляецца грубейшым парушэннем прыродаахоўнага заканадаўства. Па факту парушэння склалі адпаведны пратакол, адабралі ў парушальніка электравуду, акумулятар, сачок, лодку і 15 карасёў.

Зноў знаёмы «фінт»: нашкодзіў Захаранка «як мае быць», а як адказваць — дык не, назваўся супрацоўнікам Першамайскага РАУС, дзе ніколі не працаваў. У абласным камітэце прыродаахові па сваіх каналах устанавілі, што гэты міліцыянер - браканьер жыве ў вёсцы Новы Двор пад Мінскам. Цяпер пракуратура вядзе следства. Якім будзе зыход справы, гадаць пакуль не будзем.

Прыклады можна прыводзіць яшчэ, але, як падкрэсліваецца ў даведцы, складзенай у абласным камітэце прыродаахові, гэта абуральна, калі парушэннямі заканадаўства займаюцца людзі, «якія па абавязку службы павінны самі дапамагаць службе экалогіі і рыбаахове». Прыводзяцца ў матэрыялах і іншыя прозвішчы парушальнікаў закона ў міліцэйскіх пагонах. Гэта І. Самохін, участковы міліцыянер Фрунзенскага РАУС г. Мінска. Гэта і С. Паляшчук, падпалкоўнік, інспектар па асобых даручэннях МУС, які «ўзначальваў» групу браканьераў з сямі чалавек. Праўда, інспектар цяпер ён ужо былы.

Матэрыялу для пэўных высноў, думаецца, ужо дастаткова. Каменціраваць прыведзеныя факты журналісту дапамагае начальнік аддзела Мінскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандр ШКУРДЗЮК**.

**— Калі б гадоў з дзесяць таму сказалі, што некаторыя работнікі міліцыі стануць займацца рэкетам на дарогах, вымаганнем, іншымі бруднымі справамі, у прыватнасці — замахвацца на дзяржаўныя інтарэсы ў сферы рыбных запасаў, то мы тады пасмяяліся б — і ўсё! Сёння ж ужо не да смеху. Як вы, Аляксандр Паўлавіч, ахарактарызавалі б гэтую небяспечную тэндэнцыю?**

— Такія выпадкі, як відаць з хронікі барацьбы з браканьерамі, раз-пораз здараюцца. Хоць падобныя факты і не носяць масавага характару, тым не менш, ад гэтага фактамі яны быць не перастаюць.

Як і ў любой групе асоб, у любой арганізацыі, несумленныя людзі знаходзяцца і ў органах міліцыі. Адны ловяць браканьераў і парушальнікаў, а другія самі ўступаюць у іх «братства».

Нам, як і ўсім, вядома, што з органаў МУС супрацоўнікаў звальняюць і за правіннасці, і за што-нішто больш сур'ёзнае. Адным з відаў парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, за якія работнікі міліцыі прыцягваюцца да адказнасці, менавіта і з'яўляюцца паляўнічае браканьерства і, як бачым, браканьерства рыбнае. Што тут самае абуральнае? У газетах, па тэлебачанні аб'яўляецца пра месячнік забароны на лоўлю рыбы, каб яна змагла спакойна аднерасціцца, дык не — знаходзіцца нямала ліхадзеяў, якія спецыяльна лезуць на рэкі і азёры. На жаль, сустракаюцца сярод іх і прадстаўнікі праваахоўных органаў.

**— Калісьці модным быў выраз: усякую брыдоту выпальваць гарачым жалезам. Узровень маральнасці ў грамадстве цяпер такі, што не хопіць ніякага жалеза. Як перавыхоўваць службоўцаў у пагонах, на што спадзявацца?**

— Не буду закранаць пытанні, як прынята гаварыць, выхаваўчай работы з асабістым саставам — гэта непасрэдная справа кіраўніцтва рознага ўзроўню падраздзяленняў МУС. Скажу па сутнасці. Кожны ў любой дзяржаўнай арганізацыі, ведамстве павінен выконваць свае абавязкі так, як гэта належыць.

На органы Мінпрыроды ўскладзены абавязкі дзяржаўнага кантролю за захаваннем патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства краіны. А ўсе законапаслухмяныя грамадзяне, якія б пасады яны ні займалі, у якіх бы касцюмах ні хадзілі — цывільных, ваенных, міліцэйскіх, — патрабаванні закона абавязаны выконваць.

**— Можа, тут дапамогуць суды? Хоць, праўда, у райінспекцыях скардзяцца, што яны да спраў аб пакаранні браканьераў ставяцца не вельмі...**

— Увогуле практычна нікому — ні цывільнаму, ні міліцэйскаму — ад пакарання за браканьерства (уплаты штрафу ці адказнасці па артыкулу Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) адкруціцца не ўдаецца.

А калі справа даходзіць менавіта да суда? Тады, калі правапарушальнік катэгарычна адмаўляецца гэты штраф плаціць. Тады справа і перадаецца ў суд — і ўжо апошні спаганяе штраф у прымусовым парадку. Праўда, большасць парушальнікаў плаціць штрафы «добраахвотна»-самастойна.

Не ўсе справы такога роду, аднак, нашым райінспекцыям у судах удаецца выйграць. У асобных выпадках работнікі інспекцый не зусім правільна афармляюць дакументацыю ў суды — а яны цяпер прад'яўляюць тут вельмі жорсткія патрабаванні.

Іншы раз суд займае пазіцыю ў залежнасці ад матэрыяльнага становішча чалавека (але ўсё ж — браканьера, парушальніка закона!) — змякчае яго віну. У Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях усе іх віды «распісаны» па артыкулах, і наш інспектар, у залежнасці ад цяжару парушэння, можа аформіць дакументы і, адпаведна, штраф на суму ад адной да дзесяці мінімальных зарплат. Суд жа можа «ўвайсці ў становішча» небаракі - браканьера і зменшыць памер грашовага штрафу. Што ж, гэта яго права.

Можна, вядома, зразумець, што суды сёння завалены куды больш сур'ёзнымі справамі: колькі прыбавілася выпадкаў адных толькі рабаванняў і забойстваў! Можа таму яны і праяўляюць некаторы лібералізм у адносінах да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, які, думаецца ўсё ж, з'яўляецца працягам не зусім належнай увагі да гэтай катэгорыі судовых спраў. Заўважу: і ў судах жа засядаюць экалагічна заклапочаныя грамадзяне Беларусі — яны павінны разумець, чаго мы ўсе разам можам пазбавіцца, калі не паставім на шляху браканьераў надзейны заслон.

Наогул жа хацелася б, каб людзі ў форме не ганьбілі гонару мундзіра. Але, можа, не менш важна, каб браканьеры ў пагонах і без іх — усе разам задумаліся пра будучыню: што яны пакінуць сваім дзецям ад сённяшняй жывой прыроды? Няўжо іх уласныя нашчадкі гэтага нявартыя?

**Падрыхтаваў Аляксей ДУБРАВЕНСКІ.**

ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

# ШКОЛА БУДУЧЫХ ПРАФЕСІЯНАЛАЎ



Гэтыя два здымкі ў нечым падобныя. Але ёсць тут і немалая розніца. Сталыя спецыялісты адразу зразумеюць, чаму гэта так. Як і будучыя спецыялісты, якія яшчэ не скончылі нават сярэднюю школу. Менавіта тыя юнакі і дзяўчаты, якія наведваюць Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў, што размясціўся ў Мінску на вуліцы Макаёнка, 8. Цэнтр, дарэчы, за 68 гадоў свайго існавання «выпусціў у свет» 70 тысяч маладых людзей, якія, атрымаўшы ў гэтых сценах першапачатковыя веды і навыкі, у далейшым свядома выбралі сабе спецыяльнасці агранома, заатэхніка, лесавода і іншыя, звязаныя з «работай на прыродзе».

Цэнтр — установа пазашкольная, дзе падлеткі займаюцца ў вольны ад школьных заняткаў час. Прыходзяць сюды і студэнты першых курсаў ВНУ, бо 17—18-гадовыя юнакі і дзяўчаты «раслі» ў цэнтры яшчэ з дашкольных гадоў. Пазашкольнае навучанне — гэта, па сутнасці, яшчэ адна адукацыя: яна дапаўняе веды, якія школьнік атрымлівае ў класе па батаніцы, заалогіі, біялогіі, а таксама ў галіне аховы навакольнага асяроддзя.

Дык вось, наконт ведаў. Першы здымак, як можна зразумець, зроблены ў аранжарэі. У другім выпадку школьнікі сабраліся ў так званым ракарыі, дзе высаджаны даволі экзатычныя для Беларусі рададэндроны.

Дзе лягчэй працаваць, каб пасаджаныя табою расліны набылі сваё жыццё, — пад шклом цяпліцы ці пад адкрытым небам? На гэтае пытанне юныя знаўцы адказваюць: кожны «варыянт» патрабуе сваіх падыходаў, канкрэтных агратэхнічных метадаў і немалых ведаў. Пра наяўнасць ведаў, уменне і працавітасці якраз і сведчаць кветкі, дрэвы і кусты, якія буяюць пад доглядам сваіх юных сяброў.

**Васіль ШАРПІЛКІН.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



ПАДЫХОД ДА ВЫРАШЭННЯ ЗАСТАРЭЛАЙ ПРАБЛЕМЫ

# ЦІ «ПАСЯБРУЮЦЬ» СВІННЯ І РЫБА?

## *Расказ пра тэхналагічна-экалагічны вопыт саўгаса-камбіната «Заходні»*

**Колькі галаўнога болю ў кіраўнікоў і спецыялістаў буйных жывёлагадоўчых комплексаў выклікаюць сцёкі іхніх прадпрыемстваў? Не абыходзяць сваёй увагай «фабрыкі мяса» таксама вучоныя і журналісты. І хто б ні браўся за гэту праблему, абавязкова збіваецца на экалагічныя аспекты. Ступень абагульнення і метафары па гэтай прычыне залежаць ад узроўню ведаў і шырыні мыслення. Празмерна смелыя аўтары нават увялі «літаратурны» абарот: кожны комплекс — маленькі Чарнобыль. Няўжо так? Толькі вось свініна пакуль вырабляецца ў асноўным менавіта на гэтых прадпрыемствах, дзе вытворчасць яе абыходзіцца намнога танней, чым на звычайных маленькіх фермах. А наконт выдаткаў працы на адзінку прадукцыі лепш і не спрачацца: яны ў шмат разоў ніжэйшыя на тых жа буйных комплексах.**

Не стаіць на месцы навуковая думка і ў дачыненні да розных прыёмаў і метадаў утылізацыі жывёлагадоўчых сцёкаў. Аб адным з іх, а менавіта аб земляробчых палях арашэння, пісалася ўжо не раз. Такі спосаб атрымаў прапіску і ў нашай рэспубліцы. Ён можа шмат вырашыць, хаця, зразумела, і не ўсё. Тым больш, што «хрушкі», г. зн. свінні, нечакана «сапсавалі» ўсю радасную карціну. Іх сцёкі сталі асноўнай прычынай крышталічных адкладанняў у трубаправодах і помпавым абсталяванні. У выніку даводзіцца выдаткоўваць матэрыяльныя і грашовыя сродкі на замену труб. Да таго ж будаўніцтва аднаго гектара земляробчых палёў арашэння з усімі дапаможнымі збудаваннямі і дажджавальнымі машынамі абыходзіцца цяпер амаль у 100 мільёнаў нашых рублёў. А такіх гектараў толькі для аднаго свінакомплексу на 54 тысячы галоў патрабуецца 1200. Натуральна, пашыраць земляробчыя палі арашэння сёння не рызыкне, бадай што, ніхто.

Як выйсце са становішча, асабліва на Палессі, відаць, трэба частку адходаў жывёлы утылізаваць у рыбаводна-біялагічных сажалках. Гэта будзе каштаваць танней, чым ствараць нанава земляробчыя палі арашэння. Нехта скажа: гнойныя сцёкі і рыба? Ці можна сумясціць адно з другім, калі прычынай гібелі рыбы ў многіх выпадках з'яўляецца менавіта скідванне ў вадаёмы ўсё тых жа сцёкаў? Аказваецца, можна, калі да гэтага падысці з розумам, строга выконваючы навуковыя рэкамендацыі. Менавіта так і зрабілі ў саўгасе-камбінаце «Заходні» Брэсцкага раёна, дзе такая незвычайная сістэма утылізацыі адходаў жывёлы дзейнічае ўжо не адзін год.

Няма патрэбы падрабязна расказваць аб усіх нюансах новай тэхналогіі. З ёй лягчэй і прасцей азнаёміцца, пабываўшы хаця б адзін раз у названай гаспадарцы. Спынімся толькі на прынцыповых пытаннях.

У тэхналагічны ланцужок тут уваходзіць сажалка —накапляльнік жывёлагадоўчых сцёкаў. У гэтым нічога дзіўнага няма. На буйных свінакомплексах такі накапляльнік — звычайная з'ява. Аднак на «Заходнім» пабудавалі дадатковы накапляльнік, што дазволіла прыкметна знізіць утрыманне арганічных рэчываў у вадкасці, якая ачышчаецца. У выніку гэта вельмі станоўча адбілася на рабоце ўсёй сістэмы.

Цікава, што кожная папярэдняя сажалка тут з'яўляецца своеасаблівай «фабрыкай-кухняй» для жыхароў наступных сажалак. Так, у водарасцевай сажалцы на гноевым «харчы» шчодра размнажаюцца мікраскапічныя водарасці. Імі «ласуюцца» жыхары рачковай сажалкі — розныя насякомыя, чэрві, рачкі, якія ў сваю чаргу з'яўляюцца цудоўным кормам для рыб. І што цікава: водарасці, якія інтэнсіўна развіваюцца, абагачаюць ваду кіслародам, садзейнічаючы тым самым працэсу самаачышчэння і актывізацыі жыццядзейнасці іншых мікраарганізмаў. Яшчэ больш асвятляецца і ачышчаецца вада ў рачковай сажалцы. Умовы для зоапланктону там настолькі «камфартабельныя», што хоць ствараў спецыяльны цэх па нарыхтоўцы высокабялковага корму. Завяршаецца цыкл ачысткі сцёкаў у чацвёртай — рыбаводнай сажалцы.

Каб пераканаць у гэтым чытача, прывядзём некалькі лічбаў. Як вядома, ступень забруджанасці любой сажалкі арганічным рэчывам звычайна вызначаецца па так званым $БСК_5$ (біяхімічнаму спажыванню кіслароду на працягу 5 сутак). Калі меркаваць па гэтаму паказчыку, то яго велічыня ў сажалцы —накапляльніку сцёкаў была на ўзроўні 1000 міліграмаў кіслароду на адзін літр. У водарасцевай жа, рачковай і рыбаводнай сажалках ён склаў адпаведна 195, 34 і 4 міліграмы. Інакш кажучы, чым меншы паказчык БСК, тым чысцейшая сажалка.

Безумоўна, паспяховая работа падобных збудаванняў у цёплы перыяд года магчыма пры выкананні шэрагу ўмоў. Перш за ўсё гэта датычыцца глыбіні сажалкі. Да прыкладу, мікраводарасці любяць сонечнае святло, якое пранікае толькі праз невялікі слой вады. Ужо на глыбіні аднаго метра сонечная радыяцыя складае толькі долі працэнта ад таго, што трапляе на паверхню сажалкі. Таму глыбіня водарасцевых сажалак у нашых умовах не павінна перавышаць 60 сантыметраў. Крыху большая мяжа дапускаецца для рачковых сажалак — 0,8 метра.

Не лішнім будзе напомніць і аб тым, што сцёкі ў водарасцевых і рачковых сажалках трэба строга вытрымліваць пэўную колькасць дзён. Для кантролю за ступенню ачысткі неабходна браць пробы і ў іх вызначаць адпаведныя гідрахімічныя паказчыкі. Так што трэба мець для гэтага хаця б невялікую лабараторыю на самім жывёлагадоўчым комплексе. На «Заходнім» з гэтым спраўляюцца.

Дарэчы, аднак, заўважыць, што рыбаводна-біялагічныя сажалкі — не панацэя ад усіх экалагічных бед. Але там, дзе не хапае арашаемых плошчаў, іх стварэнне цалкам апраўдана. Інакш забруджванне прыродных вод, глебы і раслін, без усякіх сумненняў, «будзе забяспечана». Акрамя таго, трэба мець на ўвазе і кліматычныя асаблівасці Беларусі, дзе нярэдка мае месца пераўвільгатненне. Само сабой зразумела, што ў гады з залішнім выпаданнем атмасферных ападкаў выкарыстанне жывёлагадоўчых сцёкаў у якасці ўгнаенняў ператвараецца ў вялікую праблему. Застаецца адно — утылізаваць лішкі вадкай арганікі ў рыбаводна-біялагічных сажалках па метаду саўгаса-камбіната «Заходні».

І апошняе. Нягледзячы на ўяўную прастату ў інжынерным плане, гэтыя збудаванні патрабуюць стараннага нагляду. Пры няўмелай эксплуатацыі магчымы збоі ў іх рабоце. Гэтая тэхналогія асвойваецца ў нас упершыню. Словам, патрэбны пэўны вопыт і спецыялісты. Відавочна, не выключаецца і ўдасканаленне канструкцыі падобных збудаванняў у дачыненні да канкрэтных умоў, што патрабуе дадатковых выдаткаў. Адной канкрэтнай гаспадарцы гэта наўрад ці пад сілу. Неабходна фінансавае забеспячэнне з боку адпаведных міністэрстваў.

Павярнуцца тварам да праблемы павінны, нарэшце, і рознага профілю НДІ рэспублікі. Балазе, многім з іх на «Заходнім» работа знойдзецца. Тым больш, што там займаюцца не толькі рыбаводна-біялагічнымі сажалкамі, але і шукаюць новыя падыходы да выкарыстання вадкай арганікі ў якасці ўгнаенняў пад розныя сельскагаспадарчыя культуры, у тым ліку пад кукурузу на зерне. Не забываюць у саўгасе-камбінаце і аб скарачэнні аб'ёму сцёкаў на свінакомплексе, што вельмі важна з пазіцыі эканомікі і экалогіі.

Словам, у зоне беларускага Палесся саўгас-камбінат «Заходні» мог бы цалкам стаць апорным пунктам па ўдасканаленню розных тэхналогій утылізацыі адходаў жывёлы на карысць чалавеку і прыродзе. Для гэтага неабходна адпаведнае навуковае забеспячэнне і фінансаванне. Толькі тады магчыма паспяховае ўкараненне такіх тэхналогій і на іншых жывёлагадоўчых комплексах рэспублікі.

Ці трэба гэта нашай сельскай гаспадарцы, эканоміцы краіны ў цэлым? Ці канкрэтнаму спажыўцу свініны і рыбы? Калі хто сумняваецца, дык няхай спытаецца менавіта ў апошняга.

**Аляксандр БІЧ,**
**дырэктар саўгаса-камбіната «Заходні» Брэсцкага раёна.**

**Пётр ЦІВО,**
**доктар сельскагаспадарчык навук.**

З УСЯГО СВЕТУ



***Слон — сланом! Вось гэта ход!***
***Разгубіўся бегемот.***
***Зрэшты, выйсце ёсць даўно:***
***Збегчы... на рачное дно.***

**Сланы-«гросмайстры» і наогул розныя жывёлы-«матэматыкі», якія выступаюць у цырку, гэта, зразумела, з разраду фокусаў. Пра гэта практычна ўсе ведаюць, але не сярдуюць на такі падман. Але ці заўсёды тут — падман?**

# ПРА РОЗУМ І ХІТРАСЦЬ ЖЫВЁЛ

### РАЗУМНЫ ГАНС

У выпадку з арлоўскім рысаком па мянушцы Разумны Ганс усё было зусім інакш — многія людзі якраз былі абсалютна ўпэўненыя, што ён мае і матэматычныя здольнасці, і лінгвістычныя. Конь разумеў пытанне, зададзенае яму не толькі па-нямецку (жывёліна жыла ў Германіі), але і па-французску, і па-англійску. Конь падыходзіў да грыфельных дошак, на якіх былі напісаны розныя словы, і беспамылкова выбіраў прапанаванае яму слова (паказваў на яго мордай).

Ганс адказваў на вельмі складаныя пытанні, напрыклад, на які дзень тыдня прыпадала пэўнае чысло, — біў адзін раз капытом, калі яно прыпадала на панядзелак, два разы — калі на аўторак і г. д. Разумны Ганс мог «гуляць» і ў карты — калі патрабаваўся туз, ён біў капытом адзін раз, калі кароль — два разы, дама — тры, валет — чатыры разы. Калі бачыў дзесятку, то «сігналіў» дакладна дзесяць разоў. Але асабліва моцны быў у матэматыцы — дзяліў, памнажаў і складваў не толькі цэлыя лічбы, але і дробы. Фантастыка ды і толькі!

Гаспадар не рабіў са свайго Ганса сакрэту — кожны, хто жадаў, мог наведаць дом на Грыбеноўштрасэ ў Берліне, дзе па двары разгульваў Ганс, і на свае вочы пераканацца ў выдатных здольнасцях каня.

У 1901 годзе пра геніяльнага каня стала шырока вядома. Відавочцы расказвалі, што работа Разумнага Ганса ўражвала незвычайна: конь адказваў на пытанні не толькі правільна, але рабіў гэта не вагаючыся і не задумваючыся.

Было, вядома, нямала і такіх людзей, якія не хацелі ці не маглі паверыць у здольнасці Ганса: лічылі, што гэта ці дрэсіроўка, ці нейкія хітрыя трукі.

У верасні 1904 года была створана спецыяльная камісія на чале з вядомым у той час псіхолагам прафесарам К. Штумпфам. Вучоныя пацвердзілі: так, сапраўды, Гансу ніхто нічога не падказваў, не дапамагаў. Такім чынам, пытанне аб дрэсіроўцы было знята. Але калі так, то неабходна было вельмі ўважліва вывучыць здольнасці незвычайнага каня. З гэтай мэтай была створана яшчэ адна, нават больш прадстаўнічая, навуковая камісія. Цяпер ужо не дзеля праверкі, ці дрэсіраваны Ганс, а для праверкі самога Ганса. Што ж фактычна высветлілася?

Натуральна, ніякіх моў — ні нямецкай, ні французскай, ні англійскай — конь не разумеў. Але Ганс «разумеў» любую мову — гук чалавечага голасу служыў для яго сігналам, і ён пачынаў «адстукваць адказ». А ледзь улоўны рух чалавека (які і сам эксперыментатар за сабой не заўважаў) быў для Ганса сігналам для спынення стуку.

Усё ж нездарма конь звався Разумным Гансам. У яго, як аказалася, быў талент не лінгвістычны, не матэматычны, а талент назіральніка, прычым вельмі тонкага. Вучоныя і ў лабараторыі, і ў час эксперыментаў з Гансам скрупулёзна змералі рухі, якія міжвольна рабіў чалавек, што задаваў пытанні. Яны часта аказваліся амаль няўлоўнымі — нейкія міліметры. Але для Ганса гэтага было дастаткова, ён іх улоўліваў.

А як жа тады зразумець правільныя адказы на пытанні чалавека, схаванага за заслонай? Аказваецца, у Ганса быў не толькі звышвострыя зрок, але і незвычайны слых: ён прыкмячаў найменшыя інтанацыі, драбнюткія паўзы, абсалютна нераспазнавальныя для чалавека змяненні частаты і глыбіні дыхання таго, хто задаваў пытанні. І гэта для Ганса таксама было сігналам.

У выніку Разумны Ганс аказаўся звычайным канём, г. зн. «не ўмеў» ні чытаць, ні лічыць, ні лагічна думаць, ні свядома адказваць на пытанні. Але гэта быў конь з незвычайнымі зрокам, слыхам і проста фенаменальнай назіральнасцю.

### САМАЯ ХІТРАЯ КОШКА

Леапард — увасабленне гібкасці, зграбнасці і скрытнасці. Дзякуючы плямістай жоўтай шкуры жывёліна цалкам зліваецца з травой ці з драўняным суччам.

Па сіле леапард, вядома, уступае тыгру і льву, а ў бегу яму далёка да чэмпіёна-гепарда. Але затое ніхто не ўмее так бясшумна і спрытна падкрадвацца да ахвяры, як гэта робіць леапард. Гэта самая хітрая з усіх кошак. Леапард можа гадзінамі валяцца на спякотным сонцы, прыкідваючыся мёртвым. Толькі гэты хітрун можа выгінацца ў сутаргах, стагнаць і прыкідвацца вельмі хворым, падманваючы нявопытных аленяў і вярблюдаў.

Любімыя ахвяры леапарда — антылопы і маладыя буйвалы. Ён нападае на іх з блізкай адлегласці: як правіла, робіць вялікі скачок і падае здабычы на спіну, кусае ў загорбак і валіць на зямлю.

Але палюе леапард і на іншых жывёл. Аднойчы ў афрыканскім Заіры толькі адзін такі звер перабіў цэлую групу горных гарыл (таксама ж «няслабая» жывёліна, ды яшчэ і не дурная). Хапіла, атрымліваецца, хітрасці і нахабства...

### СІЛА ЁСЦЬ — РОЗУМУ НЕ ТРЭБА?

У Азіі да сланоў заўсёды ставіліся з глыбокай павагай. Данеша — індуісцкі бог мудрасці адлюстроўваўся менавіта ў выглядзе чалавека з галавой слана. Ва ўсёй Індыі на святы выводзілі і выводзяць сланоў у пышна аздобленых каштоўнымі камянямі папонах.

Рабочых сланоў не вырошчваюць — гэта вельмі доўгі працэс. Таму людзі ловяць маладых сланоў — на іх наладжваюць аблавы і заганяюць у вельмі трывалыя загоны з бярвення. Спайманы слон вельмі доўга не падпускае да сябе людзей. Таму для пачатку яго мораць голадам, а калі ён аслабне, пачынаюць карміць і вучаць разумець каманды пагоншчыка. Сланы запамінаюць каля трыццаці каманд (сведчанне іх інтэлектуальнага ўзроўню) і ўвогуле стараюцца бездакорна іх выконваць.

Пра характар і розум сланоў, між іншым, даволі трапна гаворыць таксама і быль, расказаная ў свой час вялікім пісьменнікам Львом Талстым:

«У аднаго індыйца быў слон. Гаспадар дрэнна карміў яго і прымушаў шмат працаваць. Аднойчы слон усердзіўся і наступіў нагою на свайго гаспадара. Індыец памёр.

Тады жонка індыйца заплакала, прынесла сваіх дзяцей да слана і кінула іх слану пад ногі. Яна сказала:

— Слон! Ты забіў бацьку, забі і іх.

Слон паглядзеў на дзяцей, узяў хобатам старэйшага, паціху падняў і пасадзіў яго сабе на шыю. І слон стаў слухацца гэтага хлопчыка і працаваць для яго».

### ЗУСІМ НЕДУРНЫ АСЁЛ

Хатні асёл пайшоў ад дзікага афрыканскага асла, які яшчэ сустракаецца на сваёй радзіме ў дзвюх разнавіднасцях.

Сырасць і холад аслы пераносяць вельмі дрэнна, таму чым горшы клімат краіны, дзе іх разводзяць, тым меншыя па памерах і менш вынослівыя гэтыя жывёлы. Усе аслы, як дзікія, так і хатнія, непераборлівыя ў ежы, даволі разумныя (так сцвярджаюць спецыялісты!) і вельмі цярплівыя. Так што тыя, хто гаворыць, быццам асёл — дурань, не маюць рацыі.

Аслы хутка тупеюць толькі ў дрэнных гаспадароў, якія мучаць іх пабоямі і няправільна ўтрымліваюць гэтых жывёлін. Упарцяцца ж яны толькі тады, калі на іх накладваюць непасільны груз. Так што ў даўгавухага хапае кемлівасці, ён загадзя ведае — дойдзе да месца з мяхамі на спіне ці не; вось небарака і хоча перамагчы гаспадара ў спрэчцы.

Аслы вельмі вынослівыя: на маленькай жывёліне без усякіх «ускладненняў» можа падарожнічаць мужчына-цяжкавагавік. А калі ўжо трэба, то ослік можа доўга несціся з такой ношай ва ўсю моц, як сапраўдны стаер.

У аслоў выдатна развіты слых, зрок і нюх, яны вельмі добра адчуваюць перамену надвор'я. Хоць у ежы яны і крайне непатрабавальныя, затое ваду жадаюць піць толькі чыстую! Ну хіба не разумныя «хлопцы»? (Людзі, між іншым, п'юць практычна ўсё, нават тое, што «гарыць»; дык хто ў гэтым плане разумнейшы?)

Голас у аслоў, вядома, проста дзікі. Тым больш, што гэтыя жывёліны любяць выступаць «хорам»: варта толькі аднаму выдаць знакаміты роў «іа-іа», як яго падхопліваюць усе аслы, якія знаходзяцца паблізу. Атрымліваецца вар'яцкі «канцэрт», ад якога толькі і застаецца, што затыкаць вушы. Але ж разумнаму чалавеку слухаць падобныя канцэрты зусім не абавязкова, ці не так?

**Сабраў і запісаў**
**Мірон ЧАРАПІЦА.**

# ЗУБРЫ Ў «АЗЁРАХ»

**БЫЛО 18, А ЦЯПЕР 25. І ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ВЕЧАР...**

Напрыканцы мінулага года пачалося перасяленне зуброў з Белавежскай пушчы ў заказнік рэспубліканскага значэння «Азёры» Гродзенскага раёна. Гэта было выклікана масавымі захворваннямі органаў размнажэння, у сувязі з чым існуе пагроза скарачэння колькасці лясных волатаў. Таму, каб асвяжыць кроў, часткі з іх давялося памяняць месца жыхарства. Гэта прадугледжана рэспубліканскім праектам «Зубр».

Азёрскую «прапіску» атрымалі 18 зуброў — 14 жаночага полу і 4 — мужчынскага. Пабудаваны вальеры, агароджана тэрыторыя. Іх дагледаюць егеры. Цяпер кожны «кліент» штодзённа атрымлівае 3 кілаграмы камбікорму, а травы навокал хапае. Фінансавы бок гэтай справы ўзяў на сябе калгас «Азёры».

Акліматызацыя зуброў на новым месцы прайшла нармальна. Днямі іх патомства зноў павялічылася, а ўвогуле «дзетак» ужо сямёра. Мяркуецца, што ва ўмовах абмежаванага перамяшчэння лясныя прыгажуны будуць да наступнай вясны. А затым — поўная свабода, зразумела, не без чалавечай дапамогі ў складаныя моманты.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# МАЛАКО ЛАСАСЁВЫХ РЫБ — СРОДАК АД РАКА?

Аказваецца, у малацэ ласасёвых утрымліваюцца поліпептыды, якія вельмі эфектыўныя пры лячэнні шэрагу цяжкіх станаў арганізма. З малака былі атрыманы два прэпараты: малакін — стымулюе важныя звёны імунітэту, не валодаючы алергенным дзеяннем і не выклікаючы мутацый, і алексін, які ў доследах на жывёлах дапамог запаволіць рост пухлін. Пры выкарыстанні яго добраахвотнікамі, цяжка хворымі на рак, адзначана паляпшэнне апетыту, зніжэнне болю і інтаксікацыі арганізма. Вывучэнне прыродных пептыдаў працягваецца.

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 25 (143)**


## ПРАДАЕЦЦА

● конь, узрост 3,5 года, цана дагаворная.
Тэл. у Лагойскім раёне 7-34-19, пасля 21.00;

● оптам, восенню, невялікую плантацыю жэньшэню.
Тэл. у Слонімскім раёне 7-32-06, Жукоўскі;

● дом з усімі выгодамі ў прыгарадзе Баранавіч або мяняю.
Тэл. у Ляхавічах 2-37-54, Рыжанкоў;

● матацыкл «МТ-10», або мяняю на новы мапед.
Тэл. у Беразіно 5-37-55;

● «Фольксваген-Гольф», дызель. Патрэбна замена пярэдніх крылаў — 800 у.а.
Тэл. (8-017) 242-73-60, у Слуцку — 9-07-15;

● дом у Пастаўскім раёне, участак 15 сотак, сад, лес, рэчка, добры пад'езд.
Тэл. у Смаргоні 3-28-12;

● кватэра 3-пакаёвая ў г. п. Свіслач Гродзенскай вобл.
Тэл. (8-01513) 2-18-89;

● жарабец з выдатнай радаслоўнай, узрост 2 гады, абучаны.
Тэл. у Мінску (8-22) 214-60-42;

● зруб 9 х 11 м у г. Іўе і інш. матэрыялы.
Тэл. (8-017) 251-06-48;

● «ВАЗ-2101» 1973 г. в. у добрым стане, танна.
Тэл. у Вілейскім раёне (8-271) 4-42-65;

● мотаблок новы, з навясным абсталяваннем і прычэпам — 1900 у.а.
Тэл.: (8-017) 231-30-05, з 18 да 21.00;

● трубы каналізацыйныя чыгунныя, даўжыня 7 м, дыяметр 120 мм.
Тэл. у Мядзельскім раёне 5-28-85;

● трактар «Т-16», навясныя агрэгаты ў Асіповічах.
Тэл.: (8-0235) 2-45-92, 2-28-47;

● «ВАЗ-21063» 1990 г. в., белы — 3500 у.а.
Тэл. у Слоніме 7-32-06;

● драўляны дом у в. Пяскі Калінкавіцкага р-на.
Тэл. у Калінкавічах 7-11-62;

● дом з пабудовамі, садам у в. Лелюкі Іўеўскага раёна.
Тэл. у Маладзечне 7-39-07;

● дом з г/пабудовамі ў в. Асінаўка Смаргонскага раёна (участак 40 сотак).
Тэл. 9-51-18, з 9 да 16;

● дом у г. Слоніме з усімі выгодамі, газ, тэлефон.
Тэл. 2-04-05, 2-43-89, 3-28-92;

● дом з г/пабудовамі ў в. Заброеўцы Лідскага раёна — 1500 у.а.;

● трактар «МТЗ-82 УК» 1993 г. в., плуг, культыватар, раскідвальнік, барана — танна.
Тэл. у Глыбокім 2-31-97;

● «Масквіч-2140» 1983 г. в. у добрым стане з з/ч.
Тэл. у Валожынскім раёне 3-54-28;

● лес апілаваны, брус на 16 на зруб 7х9, дошкі 25 мм, кроквы.
Тэл. (8-293) 4-37-08;

● новы даільны апарат.
Тэл. (8-296) 2-65-42;

● касілка да мотаблока МБ-1, абсталяванне да экскаватара «ЮМЗ» б/к.
Тэл. у Шчучыне 3-35-64;

● «Масквіч-412 УЭ» 1980 г. в., на хаду, на з/ч, танна.
Тэл. у Вілейцы (8-271) 5-36-81;

● «Масквіч-412» 1975 г. в. на хаду, можна на з/ч, танна.
Тэл. (8-297) 5-43-51, пасля 19;

● газавая пліта 4-канфорачная, б/к, у добрым стане.
Тэл. (8-017) 248-28-74;

● новы дом у з/пабудовамі ў Лагойскім раёне. Звяртацца ў в. Гайна, Герман.
Тэл. у Мінску 261-07-70;

● зруб 3х5,6 новы, бетонамяшалка, матацыкл «Урал» на з/ч.
Тэл. у Глыбокім 3-45-25, 2-12-41;

● прычэп-дача «Купава-350».
Тэл. у Карэлічах: (8-01596) 2-16-71, 2-35-08;

● тэрмінова трактар «Т-40», культыватар, прычэп.
Тэл. у Паставах (8-255) 2-18-63;

● дом з пабудовамі, участак 17 сотак у Паставах.
Тэл. у Паставах 2-25-76, 2-51-49;

● дом, участак 20 сотак, сад, склеп у райцэнтры Гарадок. Дом у цэнтры калгаса (20 км ад Гарадка), побач лес, прыпынак дызеля, ці абмяняю абодва дамы на кватэру ў Віцебску або іншых абласных цэнтрах.
Тэл. у Віцебску 33-65-91, у Гарадку 2-22-15;

● акардыён «Вальтмайстар-стэла», чырвоны, новы.
Тэл. у Валожынскім раёне 3-54-28;

● тэрмінова л/а «Аудзі-100» 1978 г. в., можна на з/ч, 5-цыліндравы.
Тэл. у Слоніме: (8-01562) 9-42-23, 9-45-48;

● л/а «Гольф-1» 1983 г. в., белы, на з/ч, на хаду — 500 у.а., торг.
Тэл. у Стоўбцах 4-85-23, пасля 21.00;

● «ВАЗ-2105» 1982 г. в. у добрым стане, цана па дамоўленасці.
Тэл. (8-257) 2-40-64;

● «ВАЗ-2101» 1979 г. в., танна; рогі лася.
Тэл. у Стоўбцах 4-84-85, пасля 21.00;

● дом з г/пабудовамі, участак 23 соткі ў Смаргоні каля чыгуначнага вакзала.
Тэл. (8-01522) 2-19-60;

● зруб 8х10 арыгінальнай канструкцыі са сталяркай.
Тэл. у Стоўбцах 4-74-92;

● новы драўляны дом з г/пабудовамі, участак 15 сотак у г. Століне.
Тэл. (8-01655) 3-17-22;

● л/а «Фольксваген-Джэта» 1985 г. в., бензін.
Тэл. 224-87-58;

● шкуркі кроліка, выдатна выробленыя, 30 шт., рознага колеру, танна.
Тэл. 294-64-40.

## РОЗНАЕ

● мяняю 1-пакаёвую кватэру ў Джанкоі (Крым) на кватэру ў гарадах Беларусі, або прадам.
Тэл. у Гомелі (8-0232) 72-63-70, пасля 19.00;

● ксеракопія, Ф-А4, 1000 руб., мін. заказ 300 копій.
Тэл. (8-017) 253-92-26;

● прапаную літаратуру па ўроках «Правы чалавека», бясплатна.
Звяртацца: 220141, г. Мінск, а/с 93, Грыцуку;

● куплю «МТЗ-82» ці «Т-25» б/к.
Тэл. (8-017) 251-06-48;

● куплю трактар «Т-25», навясныя агрэгаты.
Тэл. у Валожыне: (8-01772) 5-47-33, 5-55-54;

● мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Слоніме на Мінск, Стоўбцы ці Віцебск.
Тэл. у Слоніме 2-32-52;

● куплю фанеру 5 мм, 1-2 куб. м.
Тэл. у Стоўбцах 4-85-23, пасля 21.00;

● куплю трактар «Т-25», навясныя агрэгаты.
Тэл. у Глыбокім: (8-02156) 2-48-84, 2-12-65;

● прадам ці абмяняю дом цагляны з усімі выгодамі ў раёне г. Шчучына на 3-пакаёвую кватэру ў Лідзе ці Гродне (ёсць участак, тэлефон, гараж).
Тэл. у Шчучыне 2-52-67, пасля 18.00;

● даю ўрокі па хіміі, біялогіі, геаграфіі, матэматыцы, фізіцы. Падрыхтую да паступлення ў навучальныя ўстановы. Танна. Звяртацца: г. Навагрудак, тэл. 7-27-23, 2-37-32, Вярбіцкі.

## РЫНАК КАШТОЎНЫХ ПАПЕР

**Беларуская фондавая біржа прадставіла рэдакцыі каціроўкі каштоўных папер, якія, думаем, зацікавяць нашых чытачоў.**

За найбольшую суму — 500 тысяч беларускіх рублёў — прапаноўваюцца каштоўныя паперы прадпрыемства «Лакафарба». Следам ідуць «Белтрубаправодбуд» і «Брэстгазаапарат» — па 300 тысяч, пасля «Дываны Брэста» — 275 тысяч.

Характэрна, што акцыі гэтых прадпрыемстваў на продаж не выстаўлены.

Разам з тым каштоўныя паперы шэрагу прадпрыемстваў прапаноўваюцца толькі для продажу. Напрыклад, «Аўтамотасервіса і гандлю» з Асіповіч, «Баранавічыдрэва», «Белгасгандлю», «Мекосана», «Шкло-Глушы». Прадаюцца яны за 500 тысяч. Найбольшы ж кошт акцый гомельскага «Спартака» — 3 мільёны рублёў.

Што датычыць колькасці выстаўленых для продажу каштоўных папер, дык лічбы моцна вагаюцца. Ад 140 тысяч «Класікі індустрыі моды» — да 5 прадпрыемства «Заходняя нерухомасць».

**Міхась КРЫВІЧ.**

## ЭКСПАРЦЁРЫ ПАЗЫЧАЮЦЬ, ДЗЯРЖАВА ВЫЙГРАЕ

**Бюджэтам Рэспублікі Беларусь прадугледжана выдзяленне на 1998 год 200 мільярдаў рублёў для фінансавання праектаў прадпрыемстваў-экспарцёраў.**

У Белзнешэканомбанк, які ажыццяўляе выдачу крэдытаў, для правядзення экспертнай ацэнкі і афармлення заключэння было прадстаўлена сем праектаў. Найбольшыя аб'ёмы фінансавання атрымалі ВА «Хімвалакно», ААТ «Спартак», Беларускі металургічны завод, ААТ «Атлант», а таксама два брэсцкія адкрытыя акцыянерныя таварыствы — малочны і мясны камбінаты.

Камісіяй па кантролю за выкарыстаннем сродкаў Фонду падтрымкі экспарту нядаўна былі зацверджаныя яшчэ два праекты. На сродкі фонду прэтэндуе праект стварэння цэха спецыяльных цвікоў магутнасцю 10 тысяч тон у год на Рэчыцкім метызным заводзе, і арганізацыя сезоннай нарыхтоўкі пладоў і ягад з наступнай замарозкай для пастаўкі на экспарт на вытворча-камерцыйнай фірме «Вера». Першы праект акупіцца праз 4 гады 8 месяцаў, другі — за 11 месяцаў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**


**ТРУЖЕНИКАМ СЕЛА!**

ОРГАНИЗАЦИЯ РЕАЛИЗУЕТ ЗАПАСНЫЕ ЧАСТИ К НЕМЕЦКИМ КОРМОУБОРОЧНЫМ КОМБАЙНАМ Е-281-282/ Е-301-302:

- РЕМНИ ХОДОВЫЕ; ПОДШИПНИКИ; МУФТЫ СЦЕПЛЕНИЯ; РЕМНИ СПЦ-1700, 2650, 2800.
- НОЖИ ЖАТКИ и БАРАБАНА; КАРДАННЫЕ ВАЛЫ; КРЕСТОВИНЫ.
- ВАРИАТОРЫ В СБОРЕ; РЕМ. КОМПЛЕКТЫ; ВАЛЫ.
- днище БАРАБАНА; ДИСКИ СЦЕПЛЕНИЯ; ТРОСЫ ГАЗА.
- БОЛТЫ М-12-1, 5-30; КОЛЬЦА ТТЛ 5876; ПРУЖИННЫЙ ПАЛЕЦ.
- З/Ч К ДВИГАТЕЛЮ 6ВД И ПР.

А ТАКЖЕ ПРИНИМАЕМ ЗАЯВКИ НА ПОСТАВКУ З/Ч К КОМБАЙНАМ Б-516, 517 И ДОН-1200-1500.

**КОНТАКТНЫЙ ТЕЛ./ФАКС: (017) 285-26-34, 244-58-61**

ЗЕНИТ - ZENIT

**ПРОИЗВОДИТ И РЕАЛИЗУЕТ**

- КАРБЮРАТОР, МАГНЕТО, ТОПЛИВНЫЙ НАСОС к пусковым двигателям МТЗ-80, 82, 100, Т-150
- КАРБЮРАТОР ДЛЯ МОТОЦИКЛА
- ВЕСЫ ТОРГОВЫЕ
- ВЕСЫ ПОЧТОВЫЕ
- ЛЕБЕДКА РУЧНАЯ
- УСТАНОВКА ВАКУУМНОЙ УПАКОВКИ
- ФОТОАППАРАТЫ: зеркальные, шкальные
- ПРИЦЕЛЫ ОПТИЧЕСКИЕ дневные, ночные, крепления к ним
- ОХОТНИЧЬИ ПРИНАДЛЕЖНОСТИ
- БИНОКЛИ, ЗРИТЕЛЬНЫЕ ТРУБЫ
- МЕДИЦИНСКАЯ ТЕХНИКА весы ВМ-10, ВМ-20 офтальмоскопы микроскопы.

*Готовы выполнить заказы по механической обработке гальваническим покрытием, цветному и пластмассовому литью.*

***Вилейский завод «Зенит»***
***222410, Минская область, г. Вилейка, ул. Чапаева, 26.***
***Тел./факс (01771) 5-51-74, 5-86-54, 5-74-31, 5-87-70, 5-36-92.***


**Адгукніцеся, сябры па педагагічнаму інстытуту (1937—1938 гг.).**

***Мой адрас:*** *Мінская вобл., Пухавіцкі раён, п/а Дукора, вул. Чарвякова, 32. Уладзімір Іванавіч Цярэшка.*

**Арганізацыя тэрмінова прадае двухкамерны сейф-шафу (на калёсіках), памер 1,6х0,8х0,8 м.**

***Тэл. у Мінску 232-31-98, 268-28-77.***


НПП "ФЕЛИЗ"
**ПРОВЕРЕНО ВРЕМЕНЕМ**
(генеральная лицензия №13 от 12.07.94г. до 12.07.99 г. Первомайского РИК)
официальный дилер АО УАЗ
**АВТОМОБИЛИ**
**УАЗ ГАЗ**
100% комплектация и доукомплектация
**ВАЗ ПАЗ**
*Гарантийное обслуживание.*
Т. (017) 239-30-27 т./ф. 232-53-23
Услуги посредников оплачиваются


## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 69-годдзем* ***Ядвігу Сямёнаўну НЮНЬКО****. Сардэчна жадаем здароўя, даўгалецця.*

**Сям'я БЕКІШАЎ, суседзі, в. Адобічы.**

*Сардэчна віншуем* ***Марыю Рыгораўну ДЗЕМІДОВІЧ з*** *г. Мінска з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці, шчасця і дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця.*

**Брат Мікалай з сям'ёй.**

*Віншуем дарагую нявестку* ***Алену Браніславаўну СЦЯШКО*** *з днём нараджэння. Здароўя, шчасця, поспехаў у працы і ўсяго найлепшага.*

**Свёкар, свякроў, г. Вілейка.**

*Віншуем* ***Людмілу Віктараўну КУЛЕШ*** *з г. Чэрвеня з юбілеем. Зычым здароўя, шчасця, любові. Няхай табе сонца смяецца і ўсё ўдаецца.*

**Сям'я КУЛАКОЎ С. І.**

*Сардэчна віншуем* ***Ганну Альфонсаўну ПІШЧАКА*** *з в. Войстам Смаргонскага раёна з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, ладу і дабрабыту ў сям'і.*

**Калегі па працы.**

*Любага, дарагога мужа і татачку* ***Анатоля Паўлавіча ПІЛЕЦКАГА*** *з пас. Лясное віншуем з 30-годдзем. Жадаем здароўя, радасці, дабрабыту і поспехаў.*

**Жонка, дзеці.**

*Віншую ўнука* ***Уладзіміра Анатольевіча ЛАРЧЫКА*** *з г. Салігорска з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, хай усе твае мары спаўняцца.*

**Бабуля і дзядуля Самусевічы.**

*Шчыра віншуем з 65-годдзем* ***Вольгу Парфенаўну ДРАБЕНЮ*** *з в. Бучаціна.*

*Хай будзе век шчаслівы, ад нас усіх — паклон,*
*Здароўя табе, мілая, блакітных зычым дзён.*

**Дочкі, зяці і сем'і ўнукаў.**


***Предлагаем***

**ХОЛОДИЛЬНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ И ЗАПЧАСТИ:**

***холодильные камеры, агрегаты, з/части к ФАК и ИФ, ТВВ (Тарту) РТХО, ТАМ-113, РВТ-8/12/24, микродвигатели, кран сливной для молочной ванны РПО-2,5, реле давления и др.***

Тел./факс (017) 239-73-81.


## *Асабістае жыццё*

**Аб. 742.** Пазнаёмлюся з жанчынай 27 – 36 гадоў з г. Мінска для стварэння сям'і, дзіця — не перашкода. Аб сабе: 31/180/78, беларус, разведзены, не п'ю, без ш/з, знешнасць прыемная, Мінская вобл.

**Аб. 743.** Марыя, 18 гадоў, пазнаёмлюся з добрым хлопцам да 21 года без ш/звычак, па магчымасці фота, якое вярну, Мінская вобл.

**Аб. 744.** Святлана, пазнаёмлюся з самастойным мужчынам без ш/з да 44 гадоў. Аб сабе: 38/168/65, выхоўваю дачку, згодная на пераезд, Мінская вобл.

**Аб. 745**. Пазнаёмлюся з хлопцам без ш/звычак да 26 гадоў. Аб сабе: Вольга, 18/165/60, матэрыяльна і жыллём забяспечаная, добрая гаспадыня. Падрабязнасці пры перапісцы, Гродзенская вобл.

**Аб. 746.** Юра, 17/172, па гараскопу Блізня, без ш/з, пазнаёмлюся з дзяўчынай да 20 гадоў для сяброўскай перапіскі, фота абавязкова, абяцаю вярнуць (Шчучынскі раён).

**Аб. 747.** Пазнаёмлюся з маладым хлопцам. Аб сабе: 16/169/70, Скарпіён. Пішыце мне, чакаю. Адкажу ўсім.

**Аб. 748.** Пазнаёмлюся з сумленнай і прывабнай жанчынай для стварэння сям'і. Аб сабе: 44/182/90, забяспечаны, згодны на пераезд. Пісаць: 231370, г. п. Воранава Гродзенскай вобл., а/с 11.

## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

# МАСТАК. І ГЭТЫМ СКАЗАНА ЎСЁ!

**Ягоныя творы наўрад ці могуць пакінуць каго-небудзь раўнадушным. Неардынарная і разам з тым надзвычай эфектная манера пісьма... Вытанчанасць формаў і прадуманая да драбніц кампазіцыя... Пэўная канцэптуальная ідэя і багацце, такая выразнасць колераў...**

**А яшчэ ў тых працах — яскравае, проста яркае натхненне!**

**Гэта Уладзімір Тоўсцік.**

**Прыглядзішся да любога ягонага палатна — і *адчуеш, убачыш* мастака за працай.**

***Адчуеш*, што ён не проста стварае той ці іншы сюжэт, — ён яго перажывае.**

**А *ўбачыш* не проста Твор — а цэлы кавалак чалавечага быцця.**

**Усё гэта, разам узятае, — сціслая і сціплая характарыстыка Прафесіянала ў самым высокім значэнні гэтага слова.**

ЦЯЖКА ЎЯВІЦЬ Тоўсціка-майстра без вяртання, скіраванасці ягонага мастакоўскага погляду ў мінулае. І на гэта ён мае свае аргументы і падставы: Зазірнуўшы ў мінулае, Уладзімір імкнецца знайсці (і абавязкова знаходзіць!) той адзіны вобразна-мастацкі нерв, што звязвае, злучае тое мінулае з сучасным, з нашым з вамі днём. І гэта ёсць самая сапраўдная рэальнасць Часу. Вялікага, непаўторнага, такога імклівага часу!

Адзінства, дыялектычнае цэлае бачыцца і зноў жа адчуваецца літаральна ў кожным творы мастака. Свет Тоўсціка, адзначыў адзін са знаўцаў вялікага мастацтва, — «гэта не толькі ты і я, але і прырода і культура, мінулае і цяперашняе, жыццё і смерць, любоў і зло...»

Хораша сказана.

Бо так яно і ёсць!

Ён незвычайна назіральны, тонкі мастак. Нюансы адценняў, пры якіх адзін колер пераходзіць у другі, другі — у трэці, — гэта адметнасць і асаблівасць ягонай мастакоўскай манеры. Палотны нібы дыхаюць — вобразамі герояў, натхненнем і бачаннем свету самім Уладзімірам.

Каля ягонага «Чорнага месяца» замірае сэрца. Колькі ў гэтым творы думкі, вобразнасці! І не суперажываць, не задумацца над нечым сваім, патаемным тут проста нельга...

А «Цішыня» і «Танец», «Любоў і надзея» і «Сон 1» адразу пагружаюць у дзівосны і загадкавы свет таямнічасці і метафарычнасці. Гэтак жа як «Пасвячэнне маэстра Дыега» і «Мелодыя адыходзячай ночы» тонка і дакладна адлюстроўваюць унутраны свет і канфлікт адначасова.

А каб паглыбіць асноўную думку твора, Тоўсцік зноў і зноў звяртаецца да кантрасту. І тады палотны становяцца яшчэ больш вобразнымі, па-свойму блізкімі («Двое», «Светлы смутак», «Вершы»...) Непадробнасцю вобразаў, шчырасцю і захопленасцю герояў запамінаюцца карціны «У старым горадзе», «Добрая вестка», «Жарт»...

Майстэрства, як і прызнанне, прыйшлі да яго не самі па сабе і, вядома ж, не адразу. Творчая біяграфія Уладзіміра, бадай, нічым не адрозніваецца ад біяграфій іншых мастакоў. Пасля заканчэння дзесяцігодкі ў Мінску вучыўся ў тэатральна-мастацкім інстытуце ў Натана Варнова. Шмат дала трохгадовая вучоба ў творчых майстэрнях Акадэміі мастацтваў Саюза ССР у Баку (1973—1976 гады). У той час і пачаў Тоўсцік стала ўдзельнічаць у рэспубліканскіх, усесаюзных і замежных выставах.

Па манеры пісьма, выказванню сваіх думак і пачуццяў ён, несумненна, мастак-інтэлектуал, творца багатай душы. І зададзена, наканавана гэта ад роду. Бо талентамі не становяцца — імі нараджаюцца!

...Прыгадваю канец 1994 — пачатак 1995 года, час, што стаў для Уладзіміра Тоўсціка адной з вяршынь творчасці і прызнання ягонага таленту. Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь за серыю жывапісных работ «Святло і цені» і трыпціх «Спадчына» яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія нашай маладой суверэннай краіны ў галіне выяўленчага мастацтва. Прадстаўляючы лаўрэата на вечарыне ўшанавання ў Доме літаратара, народны мастак Беларусі прафесар Васіль Шаранговіч шчыра і непадробна парадаваўся за свайго маладзейшага калегу і паслядоўніка і заначыў: ва Уладзіміра Антонавіча ўсё яшчэ наперадзе... І, як мне падалося, перапоўненая зала тады з гэтым аргументам практычна аднагалосна пагадзілася. Бо сапраўдным майстрам спыніцца на паўдарозе і не дадзена, і не дазволена...

Але ж...

Цяжка жывецца сёння творцам. А мастакам, відаць, асабліва цяжка. У нябыт пайшла (і каму яна перашкаджала?!) адпрацаваная і адладжаная некалі сістэма фінансавання выстаў. Практычна не купляюць палотны нават слынных майстроў Нацыянальны мастацкі музей, Мастацкі фонд. Вось і змушаны мастакі збываць свае палотны ў прыватныя калекцыі — знаўцам сапраўднага мастацтва з Германіі і Грэцыі, Фінляндыі і Швецыі, Польшчы і Ізраіля, Славеніі і Расіі... А найбольш нецярплівыя і самі падаліся ў далёкае і блізкае замежжа: хто на Захад, а хто — на Усход...

Але сапраўдныя майстры не спыняюцца перад цяжкасцямі. Яны твораць. Твораць і вераць: усё будзе добра.

Ці будзе?

І — калі?

Цеплыню ў душы і шчодрасць даверу да аўтара выклікаюць ягоныя палотны. І гэта найпершая прымета глыбіні, філасофскага бачання і змястоўнасці твораў Тоўсціка. У яго карцінах абавязкова знойдзеш штосьці патаемнае, невыказна роднае, блізкае і знаёмае, тое, што адпавядае тваім пачуццям, стану, жаданням...

Ён — Мастак.

І гэтым сказана ўсё!

**Анатоль МЯСНІКОЎ, Яўген КОКТЫШ (фота).**



**На здымку:** сябры-аднадумцы. Злева направа: Мікола СЕЛЯШЧУК, Мікола ІСАЁНАК, Уладзімір ТОЎСЦІК і Вячаслаў ПАЎЛАВЕЦ.

## АБ'ЕКТ УВАГІ ЯК ДЗЯРЖАВЫ, ТАК І НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ

**У межах святкавання 50-годдзя Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека Цэнтр па вывучэнню ААН правёў 25 чэрвеня на факультэце міжнародных зносінаў БДУ семінар. Яго ўдзельнікі —члены прадстаўніцтва ААН у Беларусі і іншых міжнародных арганізацый, дэпутаты парламента, прадстаўнікі Канстытуцыйнага і Вярхоўнага судоў, Генеральнай пракуратуры, міністэрстваў і камітэтаў, партый і грамадскіх арганізацый, навучальных устаноў — абмеркавалі перспектывы забеспячэння правоў асобы ў Беларусі.**

Для гутаркі былі вызначаны чатыры асноўныя тэмы: «Прывядзенне нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з міжнароднымі дагаворамі ў галіне правоў чалавека», «Захоўванне і абарона правоў жанчын», «Дзейнасць няўрадавых праваабарончых арганізацый» і «Перспектывы стварэння інстытута Упаўнаважанага па правах чалавека».

Першае пытанне не выклікала асаблівага ажыўлення на семінары. Гэта, мабыць, тлумачыцца тым, што напярэдадні ў Нацыянальным сходзе прайшлі парламенцкія слуханні, дзе нямала слоў было сказана накont суадносінаў айчыннага заканадаўства і міжнародных стандартаў.

Затое па трох астатніх тэмах разгарнуліся вострыя дыскусіі. Большасць жанчын — удзельніц семінара падзялялі выказванні Валянціны Палевіковай, старшыні жаночай партыі «Надзея». Яны пагадзіліся з тым, што ў Беларусі хоць і абмяркоўваецца даволі шырока гендэрная палітыка, на справе застаецца нямала невырашаных праблем, у аснове якіх ляжыць пэўнае няраўнапраўе жанчын і мужчын.

Зразумела, садзейнічаць вырашэнню гэтай і многіх іншых праблем з правамі чалавека магло б фарміраванне шырокай сеткі няўрадавых праваабарончых арганізацый. Але ўдзельнікам семінара, у тым ліку і старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Таццяне Процька, прыйшлося канстатаваць, што ў краіне гэты працэс толькі пачаўся. І нярэдка ён сутыкаецца з сур'ёзнымі перашкодамі, у тым ліку і з неразуменнем з боку як урадаў, так і грамадства.

Першачарговае значэнне мае стаўленне дзяржавы да праблем захавання правоў чалавека. Менавіта таму вельмі ажыўлена прайшло абмеркаванне перспектыў стварэння ў Беларусі інстытута Упаўнаважанага па правах чалавека. З дакладам на гэтую тэму выступіў старшыня Камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах Юрый Кулакоўскі.

Вынікі дыскусіі, як паведамілі «Звяздзе» ў Цэнтры па вывучэнню ААН, будуць улічаны пры падрыхтоўцы нацыянальнай публікацыі, якая будзе прымеркавана да рэгіянальнай сустрэчы па правах чалавека ў Ялце ў верасні гэтага года.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

***ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ***

## КАМУ ЗАВЯШЧАЦЬ ЖЫЛЛЁ?

***«Наша сям'я (5 чалавек) жыве ў 3-пакаёвай прыватызаванай кватэры. Зусім нядаўна з'явілася магчымасць палепшыць жыллёвыя ўмовы — атрымаць кааператыўную кватэру. На сямейнай нарадзе было вырашана, што ў члены ЖБК уступіць сын, якому ўжо 17 гадоў. Аднак яго ўзрост адыграў ролю: у адміністрацыі нам адмовілі, матывуючы, што сын непаўналетні. Ці правільныя дзеянні адміністрацыі?», — пытаецца Г. Осіпава з Мінска.***

У адпаведнасці з Прыкладным статутам ЖБК, зацверджаным 15.11.1984 г. (1985, 1987, 1995), у члены ЖБК прымаюцца грамадзяне, якія дасягнулі 18 гадоў і патрабуюць паляпшэння жыллёвых умоў. Тыя грамадзяне, якія не дасягнулі 18 гадоў, прымаюцца ў члены ЖБК у тым выпадку, калі яны зарэгістравалі шлюб або паступілі на работу, а таксама калі яны з'яўляюцца нашчадкамі памерлага члена ЖБК. Калі ў вашым выпадку нельга пачакаць з прыняццем рашэння, то ў члены ЖБК могуць быць прыняты вы альбо ваш муж, а ў далейшым, у перыяд будаўніцтва дома, або пасля яго заканчэння, пай можа быць перададзены сыну, калі ён ужо дасягнуў паўналецця.

***«У маёй маці прыватызаваная аднапакаёвая кватэра. Яна вырашыла скласці завяшчанне на малодшага ўнука — майго сына. Але ці змогуць пасля смерці маці старэйшая сястра і яе дзеці аспрэчыць завяшчанне?»***

Любы грамадзянін на выпадак сваёй смерці мае права распараджацца сваёй маёмасцю на свой погляд. Аднак ёсць некаторыя катэгорыі асоб, якія маюць права на абавязковую долю. Да іх адносяцца непаўналетнія або непрацаздольныя дзеці (у тым ліку ўсыноўленыя), непрацаздольныя муж, бацькі (усынавіцелі), непрацаздольныя ўтрыманцы памерлага.

Таму, калі на дзень смерці маці сястра акажацца непрацаздольнай (дасягнуўшы пенсійнага ўзросту, будзе мець групу інваліднасці і г. д.), то яна зможа аспрэчыць завяшчанне і атрымаць права на абавязковую долю, якая складае 2/3 ад той долі, якая належала ёй пры атрыманні спадчыны па закону. Дзеці сястры аспрэчыць завяшчанне не могуць, калі толькі яны не знаходзіліся на ўтрыманні ў вашай маці — з'яўляліся непрацаздольнымі.

**Ганна ДАКУЦЬКА, адвакат.**

***ЗДАРЭННІ***

## МІНСКІ МЕТРАПАЛІТЭН: НЕЗАПЛАНАВАНЫЯ ПРЫПЫНКІ

Састаў набліжаўся да станцыі «Партызанская». Збаўляючы скорасць, ён падышоў да перона. У тое ж імгненне з характэрным шумам расчыніліся дзверы. Была якраз нядзеля, 28 чэрвеня. Гадзіннік паказваў недзе без сямі хвілін дваццаць. Нехта выйшаў на перон, іншыя зайшлі ў вагоны. Але дзверы больш не зачыняліся.

Прайшла хвіліна, другая, трэцяя... Аднак састаў стаяў на месцы. Пасажыры пачалі хвалявацца. Хвілін праз пяць спярша на станцыі, а потым і праз гучнагаварыцель у самых вагонах аб'явілі, што з-за тэхнічнай няспраўнасці рух паяздоў часова спыніўся. Аднак спакою пасажырам гэта не дабавіла. У кожнага былі свае планы на гэты вечар. І раптам — нечаканы прыпынак у дарозе. Было ад чаго хвалявацца...

Неўзабаве зноў па ўнутранай сувязі машыніст аб'явіў, што пасажыры павінны пакінуць састаў. Паколькі я знаходзіўся ў першым вагоне, то была магчымасць удакладніць, у чым прычына прыпынку.

— Ды я і сам яшчэ толкам нічога не ведаю, — растлумачыў машыніст. — Штосьці здарылася з папярэднім саставам на станцыі «Трактарная». Пайду на дапамогу.

Не паспеў цягнік адысці ад перона, як падышоў наступны. Нехта з пасажыраў выйшаў на паверхню — шукаць спадарожнага транспарту, астатнія зноў расселіся па вагонах. А час ішоў. Рэгулярна праз дзве-тры хвіліны на станцыі гучалі з рэпрадуктараў адны і тыя ж паведамленні: па тэхнічных прычынах рух паяздоў часова прыпынены. Людзі не на жарт расхваляваліся. Непадалёку сядзела жанчына з грудным дзіцем. Тое аж заходзілася ад крыку. Ды і дарослыя пасажыры пачалі ўсё гучней выказваць сваю незадаволенасць узніклай сітуацыяй.

Нарэшце, недзе амаль праз паўгадзіны, поезд адышоў ад перона. Метрапалітэн зноў пачаў працаваць у зададзеным рытме. Засталіся толькі шматлікія пытанні. А калі чалавеку тэрмінова трэба было на вакзал? Хіба будзе яго чакаць там поезд? Ды ці мала якія праблемы турбавалі пасажыраў. Хіба нельга было растлумачыць людзям, што рух затрымліваецца на пэўны час, падказаць пасажырам, якія наверсе ёсць аўтобусы, тралейбусы на канкрэтных маршрутах. Словам, тэхніка ёсць тэхніка. Як не без падстаў выказваўся машыніст, «і метал іншы раз падводзіць». Але тым, хто працуюць у метрапалітэне, павінны быць гатовы да такіх вось няштатных сітуацый, умець хутка і ў даходлівай форме растлумачыць пасажырам, нешта слушнае параіць. Тады менш будзе прыкрасці на душы. Метрапалітэн для многіх — узор парадку. І нявартa псаваць гэты добры імідж.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

***СПАЖЫВЕЦ***

## ЧАС КУРЦОЎ-ПАЛІГЛОТАЎ ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЎСЯ

**З 1 ліпеня ў Беларусі павінен быў уступіць у дзеянне новы дзяржстандарт РБ «Тытунёвыя вырабы. Інфармацыя для спажыўца: агульныя патрабаванні». Аднак вытворцы і імпарцёры тытунёвых вырабаў ужо другі раз запар атрымалі адтэрміноўку — новаўвядзенне адкладзена яшчэ на тры месяцы (у мінулы раз адтэрміноўка склала паўгода). Іншымі словамі, да 1 лістапада замежныя тытунёвыя вырабы будуць паступаць на беларускі рынак у ранейшым выглядзе.**

Як стала вядома «Звяздзе», буйныя замежныя імпарцёры звярталіся ў Савет Міністраў з просьбай аб адтэрміноўцы, матывуючы яе тым, што, маўляў, каб выканаць усе патрабаванні новага дзяржстандарта, патрэбна працяглая падрыхтоўка.

Як патлумачылі ва ўпраўленні стандартызацыі Дзяржстандарта, патрабаванні новаўвядзення застануцца нязменнымі: на ўпакоўцы тытунёвых вырабаў павінна будзе ўтрымлівацца наступная інфармацыя на рускай ці беларускай мове: найменне; марка і (ці) таварны знак; адрас вытворцы і (ці) ліцэнзіятара; наяўнасць фільтра; колькасць (штук) або маса нета; надпіс «з ментолам», калі выраб апрацаваны ментолам; надпіс, які папярэджвае аб шкодзе курэння; утрыманне нікаціну і смалістых рэчываў на адзінку вырабу; дата вырабу; інфармацыя аб стандартызацыі.

Зрэшты, дату вырабу курцы могуць і не ўбачыць — яе дазваляецца ставіць толькі на агульнай — транспартнай — тары. Назвы таксама могуць быць напісаны лацінскімі літарамі, бо многія з іх з'яўляюцца запатэнтаванымі гандлёвымі знакамі, да таго ж пераклад нярэдка не зусім прыгожа гучыць для слыху.

Што датычыць мовы, на якой з 1 лістапада будзе ўтрымлівацца на цыгарэтных пачках вышэйпералічаная інфармацыя, то, на думку спецыялістаў, гэта будзе руская. У гэтым выпадку замежныя імпарцёры змогуць адначасова пастаўляць свой тавар не толькі ў Беларусь, але і ў Расію. Хаця салідныя кампаніі з цягам часу ўсё ж імкнуцца перайсці на нацыянальную мову краіны, куды яны пастаўляюць сваю прадукцыю.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 318

**Аб унясенні дапаўнення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1998 г. № 157**

Падпункт 2.3.1 пункта 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 сакавіка 1998 г. № 157 «Аб дзяржаўных святах і святочных днях у Рэспубліцы Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 9, арт. 223) пасля абзаца дзевятнаццатага дапоўніць абзацам наступнага зместу:

«Дзень шахцёра — апошняя нядзеля жніўня».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

19 чэрвеня 1998 г., г.Мінск.

## УСЁ ПРА ЎСЁ

### ДАПАМАГЛІ... ЖАЛЕЗНЫЯ БОТЫ

Як паведамляе кітайская газета, селянін Юань Гаўшэн з правінцыі Хэнань, якому доўгі час не ўдавалася вылечыць варыкознае расшырэнне вен на нагах, знайшоў цудоўны сродак — 60-кілаграмовыя жалезныя боты.

Аднойчы ён вырашыў паспрабаваць для лячэння вядомы з даўніх часоў у народзе сродак — нашэнне вельмі цяжкага абутку.

Спачатку ён насіў штодня на працягу 2-3 гадзін жалезныя боты вагой у дваццаць пяць кілаграмаў кожны. Праз год ён заўважыў, што варыкозныя ўздуцці сталі змяншацца. Тады ён надзеў боты вагой у трыццаць кілаграмаў, і яшчэ праз год варыкозныя расшырэнні зніклі зусім.

Аднак зараз селянін, які прывычаіўся заўсёды насіць цяжкія боты, не можа абысціся без іх. Варта толькі яму зняць іх хоць на некалькі гадзін, як ён пачынае адчуваць слабасць у нагах. Таму і да гэтага часу Юань Гаўшэн ходзіць, працуе ў полі ў 60-кілаграмовых ботах, хоць сам важыць усяго шэсцьдзесят пяць кілаграмаў.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

Акционерный коммерческий банк «Белкоопбанк» ВНОСИТ ИЗМЕНЕНИЯ в одиннадцатый абзац Краткой информации:

***«Подписка на акции банка проводится ежедневно, кроме выходных и праздничных дней, с 9.00 до 13.00 со дня опубликования краткой информации в средствах массовой информации до 1 сентября 1998 года по следующим адресам:...» и далее по тексту.***



# І НІЯКАЙ «ХІМІІ»...

*ФОТАРЭПАРТАЖ*

У КАЛГАСЕ імя Арджанікідзе Смалявіцкага раёна ўрадзілі памідоры. Буйныя (па 5-6 штук на кілаграм), прыгожыя...

— Прадэгустуем? — прапанаваў кіраўнік гаспадаркі Уладзімір Лысы.

Прадэгуставалі. Проста цудоўна.

Увогуле, прадэгуставаныя памідоры — не зусім звычайныя, нават можна сказаць, што яны — з прабіркі. З хімічнай. Вырошчваюцца яны па так званай галандскай тэхналогіі.

Зразумела, што здымаемыя ў гаспадарцы памідоры — найперш з-пад цяплічнай страхі. Але на гэтым традыцыйная цяплічная тэхналогія і заканчваецца. Памідоры растуць не з зямлі (зямля ў цяпліцах увогуле закрыта спецыяльнымі матамі — для стэрыльнасці вытворчасці) — расліны пусцілі свае карані ў спецыяльныя гаршчочкі з мінеральнай ватай. Зрэшты, і вата непасрэдна на рост не ўплывае — гэта інертны матэрыял, які і прызначаны менавіта для мацавання ў ім раслін. А яшчэ для падачы праз яго спецыяльных, збалансаваных па хімічнаму саставу, пажыўных раствораў — з поўным, строга вызначаным наборам хімічных элементаў у іх, а таксама для падачы вады. Працэс — строга аўтаматызаваны, кантралюецца электронікай, кармленне і паенне раслін — дакладна па графіку (да кожнай расліны падведзены капіляр, праз яго з агульнага вузла і паступаюць у гаршчочкі з ватай «ежа» і вада). Тэмпература, мікраклімат, як і ў любой цяпліцы, — «субтрапічныя», за імі таксама назіраюць аўтаматыка, электроніка.

— Увогуле, ніякай «хіміі» ў гэтай тэхналогіі няма, — тлумачаць спецыялісты гаспадаркі, — расліна і з глебы бярэ пэўны набор хімічных элементаў, якія неабходны для яе росту і развіцця. Але, здавалася б, навошта ў такім разе «агарод гарадзіць»? А справа ў тым, што ў глебе ніколі не знойдзеш гэтых элементаў у строга вызначанай, самай прымальнай для таго ці іншага віду расліны прапорцыі. Больш таго, у глебе можа быць востры дэфіцыт адных элементаў і лішак другіх (дарэчы, адсюль і магчымыя хваробы раслін, і няпэўны рост; адсюль і слабая ўраджайнасць), у нас жа, з нашага хімічнага растворнага вузла, расліна атрымлівае ўсё, што ёй неабходна, адразу і ў поўным аб'ёме. Справу дапаўняюць, ужо як звычайна, цяпло, святло і вада.

30—35 кілаграмаў мяркуюць зняць у гаспадарцы з аднаго квадратнага метра — за перыяд жыцця адной расліны, пасля чаго на змену ёй прыйдуць новыя, а ўсяго з 80 тысяч метраў — 2400 тон. Памідоры, уложаныя ў акуратныя скрыначкі (з указанай на іх «фірмай»), ужо ідуць у гандаль беспeрапынным патокам, значная частка адпраўляецца ў Расію. Зваротны паток, які паступае ў гаспадарку, — гэта, як кажуць, жывыя грошы, прычым цяпліцы прыносяць добры даход з неблагім паказчыкам рэнтабельнасці.

Старшыня задаволены не толькі цяперашнім ураджаем у цяпліцах, але і разлікамі на будучыя ўраджаі па іншых накірунках. Па яго прыкідках, у калгасе павінны атрымаць па 50 цэнтнераў азімай пшаніцы (змаглі няблага насыціць глебу мінеральнымі ўгнаеннямі), не так даўно пачаў працаваць свой малочны цэх, прадукцыя якога таксама не затрымліваецца... Старшыня абяцае нядрэнную для сельскай мясцовасці сярэднямесячную зарплату ў цэлым за год...

І пры ўсім гэтым не зусім задаволены фінансавым становішчам гаспадаркі. Хоць і ідуць на рахунак тыя ж жывыя грошы, іх, тым не менш, востра не хапае. Да ўсяго, вісіць на гаспадарцы з мінулага года значны «цяплічны» ж доўг. Так, даходная цяплічная гаспадарка з галандскай тэхналогіяй (гэта тэхналогія прымяняецца ў Арджанікідзе ўжо некалькі гадоў, прычым яе старшыня адным з першых у рэспубліцы «знайшоў» яе) дала летась збой — па прычыне таго, што вельмі прыпазніліся абяцаныя крэдытныя валютныя сродкі. А апошнія патрэбны для закупкі адпаведнага насення, усіх інгрэдыентаў пад пажыўны набор для раслін, для закупкі таго ж інертнага матэрыялу, выпуск якога ў нашай рэспубліцы, багатай на хімічныя прадпрыемствы, меркавалі наладзіць ды так і не наладзілі. Адпаведна, спазнілася са сваёй цяплічнай прадукцыяй і гаспадарка, а той жа «галандскі» памідор найбольш каштоўны вясной ды напачатку лета. Зразумела, каштоўны па прыносімаму ім даходу.

А ўвогуле наступная атрымліваецца сітуацыя: пры неблагіх штогадовых паказчыках (мінулагодні збой з валютай і, адпаведна, з ранняй агароднінай і даходамі ад яе не будзем браць у разлік), пры тым, што калгас Арджанікідзе — адна з найбольш устойлівых гаспадарак у Смалявіцкім раёне, яна далёка не заўсёды бывае пры добрых грашах. Што гэтаму перашкаджае? Непарытэт цэн і іх жорсткая фіксацыя ў адносінах да сельгасвытворцаў, існуючае вытворча-эканамічнае ўладкаванне на вёсцы, агульная нявызначанасць развіцця сельскагаспадарчай вытворчасці ўвогуле.

Аднак гэта ўжо тэмы для іншай размовы, і найперш размовы аб стварэнні на вёсцы адпаведных умоў для найбольш паспяховага гаспадарання. А гаспадарлівыя людзі ў ёй не перавяліся. І ўмеюць добра «лавіць» новае. Як у той жа гаспадарцы Арджанікідзе, у якой чуйныя на новае, а ў выніку і прапануюць важкі і «экалагічна чысцейшы прадукт».

Дарэчы, наконт экалагічнасці. З поўнай адказнасцю за свае словы яе гарантуюць спецыялісты, людзі, якія хоць і не атрымліваюць сваю прадукцыю непасрэдна з зямлі, самі, тым не менш, — цалкам ад зямлі.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

**На здымках:** цяплічніцы **Таццяна БАРОЎСКАЯ** і **Валянціна ЗОШЧАНКА** з начальнікам цяплічнага камбіната **Аляксандрам ЕРМАЛОВІЧАМ**; аграном **Ала ЕРМАЛОВІЧ.**

**Здымкі Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**



*АСАБЛІВЫ ВЫПАДАК*

# КАЛГАСНА-ІНТЫМНЫ РАМАН

## са смерцю палюбоўніцы-малалеткі і нажавымі ранамі 45-гадовага трактарыста

Трэба было капаць бульбу і ўбіраць буракі, і Лідзія Гаўрыленка папрасіла дапамогі ў Тамары Яжовай: як-ніяк лішнія рукі. Працавалі на сотках да таго часу, пакуль мужу Лідзіі Мікалаю не прыйшоў час гнаць трактар на мехдвор калгаса. У семнаццаць гадзін гаспадыня накіравалася ў кантору, каб атрымаць зарплату за сябе, палявода калгаса «Новае жыццё», і мужа — механізатара гэтай жа гаспадаркі. Пасля яна зайшла ў краму і купіла бутэльку гарэлкі: ну як тут не адзначыць пачатак работы, хай сабе і крыху запозненай — на дварэ стаяў барвовы кастрычнік. Пасядзелі за чаркай, пагутарылі, і тут Мікалай успомніў: ён доўг людзям не аддаў. Як жа так, што падумаюць? Лідзія дастала з сумачкі чатырыста тысяч рублёў і, недаверліва зірнуўшы на мужа, папярэдзіла:

— Ты ж глядзі не прапі. І да Галькі не ўздумай швэндацца.

— Не чаўпі пра старое, — агрызнуўся Мікалай. — Лепш за сабой паназірай збоку, калі спіртнога нажлукцішся.

Жылі Гаўрыленкі ў дружбе і згодзе шмат гадоў. Сваіх траіх дзяцей вырасцілі, і, калі памерла родная сястра Лідзіі, нейкі час даглядалі і яе чацвярых дзяцей. І ўсё ішло б у іх добра, каб не тая праклятая гарэлка. Уцягнуліся яны ў яе абое, ды яшчэ на вачах у сыноў і дачкі. Магчыма, з-за гэтага ў гарэлку ўлёг і старэйшы сын Сяргей, які «па п'янай лавачцы» ўчыніў злачынства і зараз знаходзіцца ў калоніі. Час ад часу Мікалай пазычаў грошы ў каго-небудзь і расходаваў іх на выпіўку. Таму і расцаніў словы жонкі як папрок і, зачыняючы за сабой дзверы, буркнуў:

— Вярнуся мінут праз пяцьдзесят—гадзіну. А Кірычэнкаў не чапай.

Лідзія, падагрэтая дозай спіртнога, здзівілася: як гэта не чапай? Кірычэнка — гэта яе душэўны боль, хаця і суседзі, і дружбакі, і ворагі адначасова. Вось такое незразумелае перапляценне, такі моцны вузел. З бацькамі, Уладзімірам і Валянцінай, амаль аднагодкамі, яна працуе ў паляводчай брыгадзе, не цураецца іх. Па-суседску і вып'юць, і песню спяюць. І лёс іхні ў нечым падобны, бо старэйшы сын Кірычэнкаў таксама па п'янцы ўчыніў злачынства і апынуўся за калючым дротам. Але вось загваздка: Мікалай паўтара года таму нейкім непазнавальным стаў. Бурчыць, скандаліць, іншы раз і кухталя дасць. Дзе пяшчота яго падзелася, дзе клопаты тыя аб сям'і, якія раней былі? А ўсё ад чаго? Адзін да Кірычэнкаў наведвацца пачаў. Ці не завёў ён там сабе палюбоўніцу? Завёў, завёў. Можа, саму Вальку, а можа, дачку каторую — Наташку ці Гальку? Адной дзевятнаццаць, другой — шаснаццаць гадоў. Маладыя, праўда, але ўжо спелыя дзеўкі. На такіх у Міколы, якому сорак пяць гадоў стукнула, зуб так і гарыць...

Гэта і выказала Лідзія сваёй сяброўцы, калі Мікалай знік у цемры. Тамара ўспомніла: Ліда і раней так гаварыла. Больш таго, яе твар іншым разам упрыгожваў то адзін сіняк, то два адразу. А што зробіш? Ды нічога, неяк жа міруцца: як гаворыцца, Антось ды Тадора — што лапаць ды абора, разбяруцца самі. Таму і не стала падтрымліваць размову. А Лідзія распалялася ўсё больш і больш. Каля адзінаццаці гадзін вечара яна рашуча заявіла: пайду да Кірычэнкаў, Мікола — там. Пятнаццацігадовы сын Коля і Тамара адгаварылі яе — ты што? Крыху супакоілася, астыла. У гадзіну ночы зноў пачала: ён з Галькай спіць, ён Гальку, гэтую малалетку, кахае. Яна яго ачмурыла, яна яго зачаравала. Адкуль ведаю? Ведаю. Уся Глазаўка ведае, перашэптваецца, з мяне смяецца. Ды што казаць, калі я аднойчы іх ноччу ў сваім доме (я тады позна ад хворай свякрухі прыйшла) у чым маці нарадзіла застукала. Гальку за косы добра пацягала ды галавой аб падлогу пастукала, а Мікалай мяне моцна адлупцаваў і некалькі начэй не начаваў дома. Яны ўжо больш як год інтымам займаюцца, хаця мае дзеці, акрамя Колі, старэй за яе.

І ўсё ж Тамары ўдалося ўтрымаць Лідзію, якая, як кажуць, была недалёка ад ісціны. Бо Мікалай сапраўды з самага вечара як зайшоў да Кірычэнкаў, так і застаўся там. Бацькі, стаміўшыся ад цяжкай дзённай работы, завaліліся спаць рана — адзін на печы, другая — у пакоі. Наташа, якая нідзе працаваць не хацела, накарміла карову і, калі прыйшла ў хату, убачыла Мікалая — суседа, які ўжо аддаў 250 тысяч рублёў доўгу Галі і яшчэ нейкую суму. Галя, якая таксама нідзе не вучылася і не працавала, некуды адскочыла і прынесла за тыя грошы бутэльку. Утраіх сядзелі, гулялі «ў дурня» і пацiху выпівалі. Затым Наташа пайшла спаць у адрыну, на пахучае сена, а Мікалай і Галя распрануліся і ляглі на ложак. Пра жонку і свой дом Гаўрыленка забыў і думаў пра Галю, з якой сапраўды яго аднойчы ў яго ж доме застала Лідзія. У хаце потым былі скандалы, у трактарыста не хапіла сіл перапыніць свой раман з малалеткай.

...Лідзія прачнулася а палове пятай: Мікалая няма. Яна ціхенька, каб не разбудзіць сяброўку, апранулася, узяла на кухні нож і накіравалася да дома Кірычэнкаў. Хата была зачынена знутры на клямку, перавязаную нейкай вяроўкай. Яна перарэзала яе і крадком прайшла ў Галін пакой. Уключыла святло: Божухна, зноў яны голенькія! І спяць моцна. Кароткім узмахам рукі Лідзія ўдарыла ў грудзі спачатку дзяўчыну, затым — мужа. І зноў Галю, і зноў мужа. Потым кінулася прэч з хаты.

У доме закрычалі з перапуду: што гэта, хто гэта, адкуль, у чым справа? А яна ўжо бегла да ўчастковага, куды бег і бацька Галі: дзяўчына, сышоўшы крывёю, тут жа сканала. Мікалай, скурчыўшыся, стагнаў ад болю (ён потым будзе дастаўлены ў бальніцу, дзе правядзе дзесяць дзён). Радня Галі пачала шукаць яе, каб тут жа адпомсціць, але ўчастковы міліцыянер здагадаўся схаваць яе, а потым адвёз у міліцыю.

Цяжкі гэта быў суд, з енкамі і плачам. Лідзія казала, што кахае Мікалая, што жыць без яго не можа. Мікалай гаварыў, што Лідзія заслугоўвае пакарання, але сурова караць яе не варта. А яшчэ ён прызнаваўся, што і сам вінаваты ў гэтай гісторыі, што такога драматычнага фіналу не чакаў.

Лідзія Гаўрыленка прызнана вінаватай за ўчыненне наўмыснага забойства без абцяжваючых абставінаў і замах на наўмыснае забойства дзвюх асоб і прыгаворана да дзевяці гадоў пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*Буда-Кашалёўскі раён.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 3890.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12